# "Царква", № 1 (56), 2008

Падзеі і сьвяты

Пастырскае Слова
Апостальскага Візітатара
«ad nutum Sanctae Sedis»
для грэка-католікаў Беларусі
на сьвята Пасхі Хрыстовай 2008 году

*Вялебныя Айцы Сьвятаслужыцелі!*
*Дарагія Манахі, Манахіні і Браты Семінарысты!*
*Любыя ў Госпадзе Браты і Сёстры! Паважаныя Сябры!*

Крыжу Твайму пакланяемся, Хрысьце,
і сьвятое Ўваскрасеньне Тваё
ў песьнях славім.

Ютрань Уваскрасеньня Гасподняга.

**1.** Да сьвятога і сьветлага Ўваскрасеньня Госпада, Бога і Збаўцы нашага Ісуса Хрыста, сьвятая Царква – паводле старажытнай традыцыі – вядзе вернікаў шляхам вялікапоснага подзьвігу, ачышчэньня сэрца, малітвы, міласэрнасьці і духовай салідарнасьці. Сапраўды, каб радасна славіць Уваскрасеньне Госпаднее, неабходна найперш шчыра пакланіцца сьвятому Крыжу Госпадняму.

На шляху вялікапоснай духовай мабілізацыі, у духу хрысьціянскай міласэрнасьці, многія вернікі нашае Царквы – паводле словаў старажытнай Анафары сьвятога Васіля Вялікага – маліліся:



«Госпадзе, будзь апекуном дзетак, настаўнікам моладзі, падтрымкай старых [...]. Барані ўдоваў, за сірот заступайся, вызвалі палонных, аздараві хворых. Будзь памятлівы, Божа, тых, што пад судом, у вязьніцах, на катаржных работах, [...] і ўсіх тых, якія маюць патрэбу ў Тваёй вялікай міласэрнасьці».

Гэты подзьвіг посту, малітвы, міласэрнасьці і духовай салідарнасьці прыносім пакорліва Ўваскросламу Госпаду і з радасьцю славім Ягоную Пасхальную перамогу – перамогу Крыжа і Ўваскрасеньня.

**2.** Калі ўвечары Нядзелі Ўваскрасеньня Ісус Хрыстос прыйшоў да сваіх напалоханых вучняў, Ён прынёс ім дар міру і моц сваёй Пасхальнай перамогі – моц Духа Сьвятога (пар. Ян 20, 19-23). Таксама пасьля васьмі дзён Ісус ізноў прыйшоў да сваіх вучняў, сярод якіх быў і Тамаш, і прывітаў іх словамі: «Мір вам!» А Апосталу Тамашу дазволіў дакрануцца «дапытліваю рукою» да Свайго прабітага і жыцьцядайнага боку, каб ён паверыў і стаў сьведкам таго, што Ісус сапраўды жывы.

Радасьць і моц Перамогі Ўваскрасеньня жыве ў сьвятой Царкве і перадаецца вернікам – «кожнаму паводле патрэбы» – у

Сьвятых Дарах Еўхарыстыі «Ласкаю, Міласэрнасьцю і Чалавекалюбствам» таго ж Уваскрослага Хрыста.

У візантыйскай літургічнай традыцыі нашае Царквы знаходзім шмат тэкстаў, якія паказваюць нам Міласэрнага Хрыста Чалавекалюбца. У апошнія дзесяцігоддзі евангельская праўда пра Божую Міласэрнасьць атрымала больш глыбокае разуменьне ў кантэксьце зьяўленьняў Ісуса Міласэрнага сьвятой манахіні Фаўстыне (Кавальскай) у блізкім для нашых сэрцаў горадзе Вільні. Сам Ісус Хрыстос загадаў ёй напісаць абраз і зьмясьціць на ім словы малітвы: «Ісус, давяраю Табе!»

Хрысьціянам Беларусі варта ведаць, што першы абраз Ісуса Міласэрнага быў напісаны ў Вільні ў 1934 г. па блаславеньні духаўніка манахіні Фаўстыны – а. Міхала Сапоцькі. Ён сам нарадзіўся ў Беларусі, у Навасадах каля Ашмянаў у 1888 г. ды ў трыццатыя гады мінулага стагоддзя быў рэктарам касьцёла сьв. Міхала ў Вільні. Памёр а. Міхал у Беластоку ў 1975 г., дзе ён і пахаваны. (Кананічны працэс яго беатыфікацыі завершаны, і ён будзе праслаўлены ў верасьні гэтага году).

Слуга Божы а. Міхал Сапоцька загадаў іканапісцу Яўгену Казіміроўскаму напісаць сьвятую ікону. Сама сястра Фаўстына прыходзіла ў майстэрню, каб распавесьці пра дэталі выгляду абраза. 4 красавіка 1937 г. айцец Сапоцька зьмясьціў абраз у касьцёле сьв. Міхала ў Вільні. У 1948 г., калі камуністычныя ўлады зачынілі касьцёл сьв. Міхала, а. Юзаф Грасевіч, сябра а. Міхала Сапоцькі, забраў яго ў Беларусь і зьмясьціў у парафіяльным касьцёле ў Новай Рудзе каля Горадні, дзе вернікі маліліся перад ім у цяжкія часы перасьледу. Вось так сьвяты абраз знаходзіўся ў Беларусі амаль сорак гадоў. Пасьля яго перавезьлі ў Вільню і, дзякуючы руплівасьці віленскіх душпастыраў – Аляксандра Кашкевіча і Тадэвуша Кандрусевіча, зьмясьцілі ў касьцёле Сьвятога Духа. Такім чынам Беларусь і адважныя беларускія сьвятары захавалі сьвятую ікону для духовага дабра вернікаў.

Пасьля доўгіх шматгадовых дасьледаваньняў Сьвяты Айцец Ян Павел II надаў нядзелі пасьля Пасхі (Нядзелі Тамаша) імя Нядзелі Божае Міласэрнасьці і блаславіў сусьветнае шанаваньне іконы Хрыста Міласэрнага. У Цэрквах візантыйскай традыцыі гэтая ікона ўшаноўваецца як ікона Хрыста Чалавекалюбцы.

З блаславеньня Яго Сьвятасьці Папы Бенядыкта XVI 2 красавіка гэтага году, у 3-я ўгодкі блаславёнага спачыну Слугі Божага Яна Паўла II, у Рыме адбудзецца Сусьветны Кангрэс, прысьвечаны пашырэньню культу Божай Міласэрнасьці. У ім будуць удзельнічаць некаторыя беларускія каталіцкія ярархі і вернікі. Усіх сьвятароў і вернікаў БГКЦ запрашаем, каб сваёй малітвай суправаджалі гэтую сусьветную духовую падзею, так блізка зьвязаную з беларускай зямлёй і гісторыяй.

**3.** У духовым жыцьці Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы асаблівае значэньне мае храм Хрыста Чалавекалюбцы ў Маладэчне, дзе ўшаноўваем ікону Хрыста Міласэрнага і дзе штогод у Нядзелю Тамаша асабліва молімся за нашую Бацькаўшчыну Беларусь. У 2008 годзе сьвята Хрыста Чалавекалюбцы прыпадае ў нядзелю пасьля 25 сакавіка – сьвята Дабравешчаньня, якое адкрыла шлях Божай «Эканоміі» Міласэрнасьці. Гэта тым больш каштоўная нагода для малітвы за Беларусь.

Дарагія Браты і Сёстры!

У духу ўдзячнасьці Хрысту Чалавекалюбцу за Ягоную «Эканомію»»» Міласэрнасьці хачу прывітаць з сьвятам Пасхі Хрыстовай усіх, хто яе сьвяткуе паводле новага календара: грэка-católікаў, братоў рыма-католікаў, братоў пратэстантаў.

Братам праваслаўным, якія будуць сьвяткаваць Пасху паводле юльянскага календара, жадаем добрага вялікапоснага духовага подзьвігу. Няхай Хрыстос Чалавекалюбца дасьць усім нам гатоўнасьць і моц сулучна сьведчыць, што Ён нясе ўсім жыхарам Беларусі багацьце Сваёй Міласэрнасьці.

*Усім сьвятарам, манахам, манахіням, семінарыстам,*
*усім вернікам нашае Царквы ў Беларусі і па-за яе межамі,*
*а таксама ўсім нашым сябрам*
*жадаем багатых дароў міру, радасьці і надзеі*
*ад Уваскрослага Хрыста Чалавекалюбцы.*
*Усіх вас віншуем і вітаем сьвяточным вітаньнем:*
*ХРЫСТОС УВАСКРОС – САПРАЎДЫ ЎВАСКРОС!*

***Менск, Пасха Гасподняя 2008 году.***

+ Архімандрыт СЯРГЕЙ (Гаек)
Апостальскі Візітатар для грэка-католікаў Беларусі

**На фота:** *Малітва ў Вялікую пятніцу.*

Падзеі і сьвяты

## Новы кананічны статус Грэка-Каталіцкай Царквы ў Славакіі

**Важная падзея адбылася 30 студзеня 2008 году ў жыцьці ўсходніх каталіцкіх Цэркваў. У гэты дзень Яго Сьвятасьць Папа Бенядыкт XVI рэарганізаваў Грэка-Каталіцкую Царкву ў Славакіі: Прэшаўская япархія стала мітраполіяй, а ў яе склад увайшла новая Кошыцкая япархія, якая дагэтуль 11 гадоў была Апостальскім экзархатам. Акрамя таго была створана новая Браціслаўская япархія, якая таксама ўваходзіць у склад Прэшаўскай мітраполіі. Такім чынам, Славацкая Грэка-Каталіцкая Царква стала мітрапалічай Царквой «свайго права».**



У суботу, 16 лютага 2008 году, у г. Прэшаў для новаўтворанай Браціслаўскай япархіі быў хіратанізаваны біскуп Пётр Руснак. Рукі на яго ўсклаў, як галоўны сьвяціцель, кардынал Ёзаф Томка, які ўзначаліў Боскую Літургію. Разам з ім у хіратоніі новага славацкага грэка-каталіцкага біскупа ўдзельнічалі: Прэшаўскі мітрапаліт Уладыка Ян Бабяк SJ і Кошыцкі япарх Уладыка Мілан Хаўтур CSsR, а таксама Прэфект Кангрэгацыі Ўсходніх Цэркваў кардынал Леанарда Сандры і Вярхоўны Архібіскуп Румынскай Грэка-Каталіцкай Царквы (мітрапаліт г. Блаж) Яго Блаславенства Люцыян Мурэшан. Акрамя іх ва ўрачыстасьцях узялі ўдзел яшчэ каля 30 архібіскупаў і біскупаў, як усходняга, так і заходняга абрадаў са Славакіі і іншых краінаў.

У нядзелю, 17 лютага 2008 году, адбыўся кананічна-літургічны акт узвышэньня Славацкай Грэка-Каталіцкай Царквы да статуса мітрапалічай Царквы свайго права (sui iuris) з пасадам у Прэшаве ды інтранізацыя першага Прэшаўскага архібіскупа-мітрапаліта Ўладыкі Яна Бабяка. Боскую Літургію ўзначаліў сам інтранізаваны Мітрапаліт Ян. У Літургіі бралі ўдзел чатыры кардыналы: Прэфект Кангрэгацыі Ўсходніх Цэркваў Высокадастойны Леанарда Сандры, які сказаў казаньне, Яго Блаславенства Вярхоўны Архібіскуп Кіева-Галіцкі Любамір (Гузар), Кракаўскі мітрапаліт кардынал Станіслаў Дзівіш і славацкі кардынал Ёзаф Томка. Боскую Літургію саслужылі Яго Блаславенства Вярхоўны Архібіскуп Румынскай ГКЦ Люцыян Мурэшан і яшчэ каля трох дзясяткаў архібіскупаў і біскупаў (як усходняга, так і заходняга абрадаў) са Славакіі, Польшчы, Чэхіі, Венгрыі, Украіны, Харватыі, Сербіі, Чарнагор'я, ЗША і Канады.

У прэшаўскіх урачыстасьцях удзельнічалі таксама высокія экуменічныя госьці – біскупы і духавенства Праваслаўнай Царквы ў Славакіі і славацкіх пратэстанцкіх Цэркваў (Лютэранскай ды Рэфармаванай).

Прысутнічала больш за 8000 вернікаў, якія пасьля Боскай Літургіі, разам з сваімі пастырамі, напісалі і адправілі ўдзячны ліст Сьвятому Айцу Бенядыкту XVI.

Увечары Прэфект Кангрэгацыі Ўсходніх Цэркваў кардынал Леанарда Сандры наведаў Прэшаўскую грэка-каталіцкую семінарыю імя блаславёнага Біскупа Паўла Пятра Гойдзіча, дзе ў прысутнасьці Мітрапаліта Яна Бабяка сустрэўся з семінарыстамі, літургічнай службай і арганізатарамі ўрачыстасьцяў.

У панядзелак, 18 лютага 2008 году, у грэка-каталіцкім катэдральным храме Нараджэньня Багародзіцы ў Кошыцах меў месца інгрэс Уладыкі Мілана Хаўтура на катэдру Кошыцкага япарха. Урачыстасьць, у якой удзельнічала шмат біскупаў, сьвятароў ды вернікаў, узначаліў кардынал Прэфект Кангрэгацыі Ўсходніх Цэркваў Высокадастойны Леанарда Сандры.

**Паводле** www.grkatpo.sk ды www.grkatke.sk

**а. Андрэй Абламейка**
*г. Менск*

**На фота:** *Першы Прэшаўскі грэка-каталіцкі мітрапаліт Уладыка Ян Бабяк SJ.*

**Гл. таксама** фота з урачыстасьцяў у Славакіі

Падзеі і сьвяты

Урачыстасьці з нагоды ўзвышэньня Славацкай Грэка-Каталіцкай Царквы да статусу мітраполіі

***Гл. таксама:*** *Новы кананічны статус Грэка-Каталіцкай Царквы ў Славакіі*















**На фота:**

**1.** Прэшаў (Славакія). Грэка-каталіцкая мітрапалічая катэдра сьв. Яна Хрысьціцеля (1754-1759).

**2.** Прэшаў, 16.02.2008. Хіратонія Брацiслаўскага біскупа Пятра Руснака.

**3.** Уладыка Пётр Руснак – біскуп новаўтворанай Брацiслаўскай япархіі.

**4.** Прэшаў, 17.02.2008. Інтранізацыя Прэшаўскага архібіскупа-мітрапаліта Ўладыкі Яна Бабяка SJ.

**5.** Прэшаў, 17.02.2008. Боская Літургія падчас інтранізацыі
першага Прэшаўскага архібіскупа-мітрапаліта Ўладыкі Яна Бабяка SJ.

**6.** Славацкія грэка-каталіцкія ўладыкі: біскуп Мілан Хаўтур, мітрапаліт Ян Бабяк, біскуп Пётр Руснак.

**7.** Прэфект Кангрэгацыі Ўсходніх Цэркваў кардынал Леанарда Сандры на ўрачыстасьцях у Славакіі.

**8.** 18.02.2007, Кошыцы (Славакія). Прэфект Кангрэгацыі Ўсходніх Цэркваў кардынал Леанарда Сандры ўзначальвае інгрэс Кошыцкага грэка-каталіцкага біскупа Мілана Хаўтура CSsR.

**9.** 18.02.2007, Кошыцы (Славакія). Інгрэс Уладыкі Мілана Хаўтура на катэдру Кошыцкага япарха.

Падзеі і сьвяты

## Мітрапаліт Тадэвуш Кандрусевіч на сьвяце ў менскіх грэка-католікаў

**30 сьнежня 2007 году грэка-каталіцкая парафія Праведнага Язэпа ў Менску адзначала сваё патранальнае сьвята. З гэтай нагоды па запрашэньні Апостальскага Візітатара БГКЦ Архімандрыта Сяргея (Гаека) і параха гэтай парафіі протапрасьвітара Андрэя Абламейкі менскую супольнасьць каталікоў візантыйскага абраду наведаў рыма-каталіцкі Мітрапаліт Менска-Магілёўскі Яго Эксцэленцыя Архібіскуп Тадэвуш Кандрусевіч. Разам з кс. д-рам Янам Крэмісам ён прысутнічаў на сьвяточнай Боскай Літургіі ў касьцёле сьв. Яна Хрысьціцеля ў мікраёне Серабранка, дзе моляцца грэка-каталікі.**



Гэта была вельмі прыемная і чаканая сустрэча грэка-каталікоў г.Менску з Высокадастойным Уладыкам Мітрапалітам.

Пасьля Евангельля Мітрапаліт Тадэвуш прамовіў казаньне да ўдзельнікаў сьвята. У сваім слове ён выказаў радасьць, што можа супольна маліцца з грэка-каталікамі, якія разам з вернікамі лацінскага абраду складаюць Супольнасьць Каталіцкай Царквы ў Беларусі.

Архібіскуп зьвярнуў увагу, што сьв. Язэп, які ў Евангельлі названы «мужам справядлівым», застаецца сёньня вельмі каштоўным і актуальным прыкладам мужчыны. «Сёньня патрэбныя людзі фармату сьвятога Язэпа. Паўтаруся яшчэ раз, Язэпа ўжо дваццаць першага стагоддзя, каторы хоча жыць праўдай Божай, каторы Бога ставіць на першае месца, а не разьлічвае толькі на свае фізічныя сілы, на свой інтэлект, на дасягненьні навукі. Усё гэта добра, але гэта ніколі не заменіць справаў духоўных, гэта ніколі не заменіць духоўнага выхаваньня чалавека, яго духоўнай фармацыі»,– падкрэсьліў Мітрапаліт.

На заканчэньне Боскай Літургіі, якую разам з Архімандрытам Сяргеем саслужылі душпастыры менскіх грэка-каталіцкіх парафіяў – сьвятары Андрэй Абламейка, Казімір Ляховіч, Андрэй Буйніч і Яўген Усошын – Высокадастойны Ўладыка Мітрапаліт удзяліў усім прысутным пастырскае блаславеньне, а вернікі засьпявалі яму архірэйскае «Многія леты».

**На фота:** *Менск, 30.12.2007. Уладыка Тадэвуш Кандрусевіч, рыма-каталіцкі мітрапаліт Менска-Магілёўскі, сярод менскіх грэка-католікаў.*

### Тэкст казаньня Мітрапаліта Т.Кандрусевіча гл. тут

Сьвятло Ўсходу

## Юбілей Зьверхніка УГКЦ



**Свой дзень народзінаў – 26 лютага – Уладыка Любамір Гузар, Першаярарх УГКЦ, Вярхоўны Архібіскуп Кіева-Галіцкі, правёў як звычайна, на сваім працоўным месцы. Сьвяткаваньне адбылося ў нядзелю, 2 сакавіка 2008 году. На гэтай урачыстасьці ў Кіеве вернікі УГКЦ віншавалі свайго духоўнага Бацьку – Яго Блаславенства Любаміра Гузара – з 75-годдзем, а таксама з 50-годдзем сьвятарства, бо 30 сакавіка 1958 году ў Стэмфардзе (ЗША) ён быў высьвячаны на сьвятара.**

Галоўным сьвяточным дзействам гэтага дня была падзячная Архірэйская Боская Літургія, якая была адслужана ў храме сьв. Васіля Вялікага ў Кіеве. Яе, у саслужэньні з Архібіскупам Іванам Юркавічам, Апостальскім Нунцыем ва Ўкраіне, Уладыкам Ігарам Возьнякам, Архібіскупам Львоўскім, Улыдыкам Мечыславам Макшыцкім, Архібіскупам-каад'ютарам Львоўскай архідыяцэзіі РКЦ ва Ўкраіне, іншымі біскупамі Грэка- і Рыма-Каталіцкай Царквы, шматлікімі сьвятарамі (на юбілей былі запрошаныя ўсе дэканы УГКЦ з Украіны), адслужыў сам юбіляр Яго Блаславенства кардынал Любамір Гузар. Шматлікае духавенства і вернікі, што напоўнілі храм, мелі нагоду сумесна дзякаваць Госпаду і маліцца за Божае блаславеньне для Вярхоўнага Архіпастыра Ўкраінскай Грэка-Каталіцкай Царквы.

У казаньні, якое прамовіў падчас урачыстай Літургіі Ўладыка Дыянісі Ляховіч, ён так ахарактарызаваў жыцьцё і служэньне Першаярарха УГКЦ: «Жыцьцё Яго Блаславенства – гэта пастаянная вандроўка насустрач іншым. Я ня маю на ўвазе яго частыя падарожжы ў розныя краіны. Гэта хутчэй вандроўка насустрач людзям, здольнасьць кантактаваць з рознымі катэгорыямі людзей.

Ва ўсіх кантактах Яго Блаславенства праяўляецца глыбокая мудрасьць, сімпатыя, іх пранізвае здаровы гумар. Яго Блаславенства мае праблемы са зрокам, але ж цешыцца праніклівым сьвятлом мудрасьці, памяці і веры; веры чыстай, шчырай, адкрытай, прадбачлівай. З яго постаці выпраменьваецца лагоднасьць, спакой, сімпатыя, бацькоўская любоў, і гэта заўважаюць усе – нават дзеці. Прыкладам гэтага ёсьць тое, што сталася ў аэрапорце ў Сан-Паўла. Сядзела мама з дачушкаю. Малая зацікавілася Яго Блаславенствам, падыходзіць да яго і пытаецца: «Ты часам не сьвяты Мікалай?»

Усе ведаюць, што Яго Блаславенства дасканала размаўляе на розных мовах. Але я думаю хутчэй пра дар – пра харызму Сьвятога Духа, якая дае магчымасьць гаварыць рознымі мовамі: моваю дзіцяці і простага чалавека; моладзі і старэйшых; моваю палітыкаў і дзяржаўных лідараў, моваю творцаў культуры і навукі; моваю Царквы; і пра здатнасьць весьці экуменічны дыялог. Дар мовы, які дае магчымасьць карыстацца сучаснымі медыйнымі сродкамі камунікацыі. Мова, якая не баіцца прамовіць у абарону тых, што ня маюць голасу. Прарочая мова, якая праяўляецца ў прыватнасьці ў пастырскіх лістах, якая падтрымлівае тых, што церпяць, і не баіцца асуджаць грэх, несправядлівасьць, карупцыю ды іншыя маральныя хібы грамадзтва. Мова прарочая, якая гаворыць пра Бога ў грамадзтве бяз Бога і супраць Бога. Мова прарочая, якая прамаўляе нават тады, калі маўчыць. Яго Блаславенства гаворыць шмат і піша шмат, бо ў свой час навучыўся маўчаць»,– падкрэсьліў прапаведнік.

Пасьля Боскай Літургіі вітальную прамову ад імя Сьвятога Айца Бенядыкта XVI меў Апостальскі Нунцый ва Ўкраіне Архібіскуп Іван Юркавіч, ад сваіх братоў у біскупстве Яго Блаславенства кардынала Любаміра віншавалі Архібіскуп Львоўскі Ўладыка Ігар Возьняк, а ад імя рыма-каталіцкіх біскупаў – Уладыка Станіслаў Шырокарадзюк.

У гэты дзень сьвяткаваньня юбілею Першаярарха УГКЦ у храме маліліся таксама Старшыня Вярхоўнай Рады Украіны і члены Кабінету Міністраў Украіны.

Падчас свайго кароткага слова Зьверхнік УГКЦ сказаў, што для яго гэты дзень ёсьць днём падзякі Госпаду за ўсе Яго дабрадзействы. «Сёньня я хачу з поўнай перакананасьцю заявіць, што ўсё дабро, якое ў жыцьці я атрымаў, і ўсё дабро, якое мог зрабіць,– ёсьць дарам Божым»,– сказаў юбіляр.

Прыгожым працягам юбілейных урачыстасьцяў стаў сьвяточны вечар у Нацыянальнай оперы Ўкраіны імя Т.Шаўчэнкі, дзе прысутнічаў Прэзідэнт Украіны Віктар Юшчанка з сужонкай, а такасама іншыя высокія ўкраінскія ўрадоўцы. Прэзідэнт Украіны ўзнагародзіў Першаярарха УГКЦ Уладыку Любаміра Гузара ордэнам князя Яраслава Мудрага III ступені – за значны асабісты ўклад у духоўнае адраджэньне ўкраінскага народу і шматгадовую царкоўную дзейнасьць. Зьвяртаючыся да Зьверхніка УГКЦ, Прэзідэнт Украіны Віктар Юшчанка адзначыў: «Вашае падзьвіжніцтва, апостальская руплівасьць, пастырская мудрасьць і цеплыня заслужылі глыбокую пашану ня толькі нашых суайчыньнікаў, але і ўсёй Хрыстовай Царквы». Да гэтых словаў украінскага прэзідэнта шчыра далучаюцца і ўсе беларускія грэка-католікі, праўдзівым сябрам якіх ёсьць Уладыка Любамір, ды зычаць Яго Блаславенству «Многія леты!»

**Паводле Дэпартаменту інфармацыі УГКЦ**

Сьвятло Ўсходу

## Грэка-каталіцкая літургія ў Супрасьлі

**Група вернікаў гарадзенскай грэка-каталіцкай парафіі Маці Божай Фацімскай зьдзейсьнілі 7-8 сьнежня 2007 году пілігрымку ў старажытны Супрасьль, што каля Беластока, дзе ў XVII-XIX стагоддзях дзейнічаў адзін з найбуйнейшых цэнтраў духовага жыцьця Ўніяцкай Царквы на беларускіх землях – Супрасьлеўскі базыльянскі манастыр.**

У суботу, 7 сьнежня, а. Андрэй Крот адслужыў візантыйскую літургію ў супрасьлеўскім рыма-каталіцкім касьцёле Сьвятой Тройцы. Гэтая падзея выклікала вялікую цікавасьць вернікаў мясцовых рыма-каталіцкіх парафіяў, дзеля гэтага багаслужба адбывалася на беларускай і польскай мовах. Падчас набажэнства сьпявала харавая група гарадзенскай парафіі Маці Божай Фацімскай, якая ўразіла гаспадароў высокім майстэрствам царкоўнага сьпеву. Пілігрымка адбывалася на наступны дзень пасьля сьвята сьв. Мікалая Цудатворцы, архібіскупа Мірлікійскага, і з гэтай нагоды грэка-каталікі з Горадні падаравалі мясцовай парафіі Сьвятой Тройцы ікону гэтага сьвятога. На наступны дзень, у сьвята Беззаганнага Зачацьця Найсьвяцейшай Багародзіцы паводле календара Рыма-Каталіцкай Царквы, душпастыр гарадзенскіх грэка-каталікоў а. Андрэй Крот саслужыў сьв. Імшу ў лацінскім абрадзе, а харавая група выканала некалькі сьпеваў падчас набажэнства.

Пробашч парафіі Сьвятой Тройцы кс. Анджэй Хуткоўскі адзначыў, што для каталікоў Супрасьля гэта была вельмі важная падзея, паколькі ўсе яны, нягледзячы на тое, што ўжо шмат дзесяцігоддзяў практыкуюць у лацінскім абрадзе, захоўваюць памяць пра свае ўніяцкія карані і ганарацца імі. Ён таксама дадаў, што гэта была першая Боская Літургія ва ўсходнім абрадзе ад часоў II Сусьветнай вайны. У міжваенны час у Супрасьлі раз на месяц правілася грэка-каталіцкая літургія. Пасьля адраджэньня Грэка-Каталіцкай Царквы ў Польшчы Супрасьль наведвалі айцы базыльяне, якія служылі паніхіду па сваіх памерлых братах-манахах і верніках-уніятах.

Сьвятло Ўсходу

## Новы грэка-каталіцкі экзархат ва Ўкраіне

**15 студзеня 2008 году ў Ватыкане было абвешчана, што Сьвяты Айцец Бенядыкт XVI паблаславіў рашэньне Сіноду Біскупаў Украінскай Грэка-Каталіцкай Царквы адносна заснаваньня новага архібіскупскага экзархату ў Луцку і прызначэньня яго першага экзарха. Ім стаў а. Язафат Алег Гавера, сьвятар Тарнопальска-Збораўскай япархіі УГКЦ, якому нададзены тытулярны пасад Цэзарыяні.**

«Новы экзархат будзе называцца «Валынскі», і ў яго будуць уваходзіць Валынская і Ровенская вобласьці. Рэзідэнцыя экзарха будзе ў Луцку. Ён створаны на падставе рашэньня Сіноду Біскупаў УГКЦ Вярхоўным Архібіскупам, як і Данецка-Харкаўскі і Адэска-Крымскі экзархаты. Таму гэтыя экзархаты называюцца архібіскупскімі. Па сутнасьці, –гэта азначае, што яны дзейнічаюць ад імя Вярхоўнага Архібіскупа і яму падсправаздачныя»,– паясьніў у каментары для Дэпартаменту інфармацыі УГКЦ Яго Блаславенства кардынал Любамір Гузар.

Дакументы Царквы

# Надзея: розум і свабода у новай энцыкліцы «Spe salvi» Папы Бенядыкта XVI

*Што такое «хрысьціянская надзея» і чым яна адрозьніваецца ад «іншай» надзеі?*
*На гэта і іншыя пытаньні адказвае Папа Бенядыкт XVI у сваёй новай энцыкліцы «Spe salvi».*

***Акрэсьліць надзею***

Новая энцыкліка Папы называецца «Spe salvi», бо пачынаецца словамі «Spe salvi facti sumus», што ў перакладзе з лацінскай мовы азначае «мы збаўлены надзеяй» (Рым 8, 24). Папа, напачатку разважаючы над паняцьцем надзеі ў кантэксьце Новага Запавету і раньняй Царквы, фармулюе некалькі сьцьверджаньняў. Першае: вера – гэта надзея; другое: вера – гэта субстанцыя.

Адносна першага сьцьверджаньня трэба паясьніць, што вера ёсьць надзеяй на асабовага Бога, «Які паказаў нам у Хрысьце сваё Аблічча і адкрыў сваё Сэрца» (Spe salvi, 4). Гэтая надзея мае ня толькі характар «інфармацыйны», але грунтуецца на асабістай сустрэчы з нашым Збаўцам Ісусам, якая мае моц зьмяніць жыцьцё.

Што да другога акрэсьленьня, то яно выяўляецца досыць нечакана, пасьля таго, як Папа зьвяртае ўвагу на значэньне слова «hypostasis» у арыгінале тэксту з Пасланьня да габрэяў: «Вера – гэта hypostasis таго, на што мы спадзяемся, і доказ таго, чаго мы ня бачым» (Гбр 11, 1). Бенядыкт XVI адзначае: «На думку Айцоў і тэолагаў Сярэднявечча, было відавочна, што грэцкае слова «hypostasis» трэба было перакладаць словам «substantia».

Субстанцыя – гэта філасофскі тэрмін, пра які напісана не адна навуковая праца, але які моцна ўвайшоў у быт тых, хто выхаваўся ў еўрапейскай культуры. (Субстанцыя з лат. substantia – істота; тое, на чым можна грунтавацца). Калі падаць тут прыклад простай моваю, то субстанцыяй гарбаты-напою ёсьць чай як расьліна. Ненавуковец, калі нават і ня зможа сфармуляваць акрэсьленьне «субстанцыі», то, прынамсі, інтуітыўна ўяўляе яе сабе як штосьці канкрэтнае і рэальнае.

Папа кажа пра надзею як пра тыя канкрэтныя і рэальныя «рэчы», што павінны адбыцца; і хоць яны яшчэ не зьяўляюцца відавочнымі ў зьнешнім сьвеце, аднак мы носім іх у сабе як «пачатковую і дынамічную рэчаіснасьць». Акцэнтуючы ўласна на такім разуменьні, Папа палемізуе з Марцінам Лютэрам, які разумеў «substantia» не ў аб’ектыўным сэнсе (як тое, што існуе ў нас), але ў суб’ектыўным, як праяўленьне пэўнага ўнутранага настрою.

***Веды пра надзею і «datata ignorantia»***

Паразважаўжы пра надзею ў кантэксьце Новага Запавету ды раньняй Царквы, Папа зьвяртаецца да ўжо ўзгаданага персанальнага асьпекту. Усё разважаньне пра надзею, на яго думку, стасуецца жыцьця й сьмерці чалавека ўвогуле, а таму яно закранае сёньня і кожнага з нас. Другі раз у гэтай энцыкліцы Папа задае ўсім чытачам пытаньне пра здольнасьць надзеі перамяніць жыцьцё: «Тым ня менш, мы павінны адкрыта спытацца ў сябе: ці таксама і для нас хрысьціянская вера зьяўляецца надзеяй, якая перамяняе і падтрымлівае нашае жыцьцё? Ці яна зьяўляецца «творчай» для нас, навіной, якая па-новаму фармуе само жыцьцё, ці гэта проста «інфармацыя», якую мы з часам адклалі і якая, здаецца, ужо саступіла больш новым навінам?» (Spe salvi, 10).

Бенядыкт XVI, зьвяртаючы ўвагу на індывідуалістычны асьпект надзеі, не забывае і пра «супольнасную рэчаіснасьць». Надзея абавязкова стасуецца людзкой супольнасьці: сьмерць Госпада нашага Ісуса Хрыста за нас становіцца ««аднаўленнем» адзінства, дзякуючы якому мы зноў утвараем еднасьць, якую складаюць паміж сабою вернікі ўсяго сьвету» (Spe salvi, 14).

Побач з акрэсьленьнем паняцьця «надзея» і выкладам на гэтую тэму пазітыўнай навукі, Бенядыкт XVI зьвяртае ўвагу на тое, што рэчаіснасьць надзеі перавышае ўсе нашыя веды пра яе. Папа спасылаецца на сьвятога Аўгустына, усьлед за ім кажа так: «Ёсьць у нас, калі так можна сказаць, вучонае невуцтва (datata ignorantia)». І далей ён працягвае: «Мы ня ведаем, чаго на самой справе хочам; мы не спазналі таго «сапраўднага жыцьця». Аднак ведаем, што павінна існаваць штосьці, чаго мы ня ведаем і да чаго імкнемся» (Spe salvi, 11). Іншымі словамі можна сказаць, што колькі б мы не імкнуліся акрэсьліць словамі хрысьціянскую надзею, то ўсё роўна гэта будзе толькі недасканалы адбітак у люстры надзеі насамрэч.

***Нарысы гісторыі «надзеі на прагрэс»***

Папа Бенядыкт XVI зьвяртае ўвагу, што ў сучасным сьвеце вобраз надзеі дэфармаваны. Каб паказаць, якім чынам гэта

адбылося, ён робіць кароткі экскурс у гісторыю. Гісторыя скажэньня вобразу надзеі пачынаецца пасьля адкрыцьця Амерыкі і новых тэхнічных вынаходніцтваў. Дзякуючы ім нарадзіўся навукова-тэхнічны прагрэс, які даў пачатак новае эры. Фрэнсіс Бэкан, філосаф, які адзін з першых паўплываў на фармаваньне прынцыпаў новай эры і стаў яе ідэолагам, кажа пра тое, што навізна заключаецца ў новай узаемасувязі навукі і практыкі. Гэта знайшло і тэалагічнае прымяненьне. У спосаб просты можна яго патлумачыць так: чалавек не пануе над гэтай рэчаіснасьцю, бо згубіў гэтае панаваньне праз першародны грэх. Аднак вось зьявіўся прагрэс, а разам з ім і надзея, што менавіта ён дапаможа вярнуць панаваньне над нашай рэчаіснасьцю. Так нарадзілася «новая» вера: надзея на прагрэс. Збаўленьне цяпер чакаецца не ад Ісуса Хрыста, але ад сувязі паміж навукай і практыкай. «Гэтым не адмаўляецца вера; хутчэй яна адсоўваецца на іншы ўзровень – узровень прыватных і пазазямных спраў – і адначасова ў пэўнай ступені яна становіцца ўжо неістотнай для сьвету» (Spe salvi, 17).

Паступова ў ідэалогіі прагрэсу выкрышталізоўваюцца дзьве цэнтральныя катэгорыі: розум і свабода. Бенядыкт XVI тлумацыць гэта наступным чынам: «Прагрэс зьяўляецца перадусім прагрэсам ва ўзрастаючым панаваньні розуму, а розум, відавочна, лічыцца сілай дабра дзеля дабра. Прагрэс – гэта перамога над усімі залежнасьцямі, і таму ён вядзе да дасканалай свабоды» (Spe salvi, 18). Ідэі, якія нарадзіліся з веры ў прагрэс, знайшлі сваю палітычную рэалізацыю. Першым этапам гэтай рэалізацыі стала Французская рэвалюцыя. Яна стала спробай аднавіць панаваньне розуму і свабоды палітычна магчымым спосабам. На гэтым этапе ідэалогіі прагрэсу філасофскую падтрымку аказаў ёй Эмануэль Кант, які ў 1792 годзе напісаў твор «Перамога добрага пачатку над злым і ўстанаўленьне Божага Валадарства на зямлі». У гэтым творы між іншым сьцьвярджалася: «Паступовы пераход ад царкоўнай веры да чыстай рэлігійнай веры зьяўляецца набліжэньнем Божага Валадарства» (Spe salvi, 19).

Як вынік навукова-тэхнічнага прагрэсу, склалася «новая сацыяльная сітуацыя: узьнік новы клас індустрыяльных работнікаў» і так званы «індустрыяльны пралетарыят» (Spe salvi, 20). Пралетарыят жыў у жахлівых умовах. Новыя ідэолагі XIX стагоддзя Фрыдрых Энгельс і Карл Маркс перанялі эстафету «новай» надзеі і адыгралі ў гэтай гісторыі сумна вядомую ролю. Кульмінацыяй сталася рэвалюцыя ў Расеі. «Але разам з перамогай стала відавочнай фундаментальная памылка Маркса. Ён вельмі дакладна паказаў, як трэба зьдзейсьніць рэвалюцыю. Аднак не сказаў нам, што трэба было рабіць далей» (Spe salvi, 19). Маркс не падумаў пра гэта, бо быў перакананы: сама рэформа эканомікі павінна ўсё вырашыць. Ён ня ўзяў пад увагу, што «чалавек – гэта ня толькі прадукт эканамічных умоў і яго нельга аздаравіць выключна звонку, ствараючы спрыяльныя эканамічныя ўмовы» (Spe salvi, 21).

***Праўдзівы вобраз надзеі і крыніцы надзеі***

У працяг папярэдняй думкі Бенядыкт XVI рашуча разьмяжоўвае сферы, у якіх можна спадзявацца на прагрэс, а ў якіх – не. Ён сьцьвярджае, што прагрэс магчымы толькі ў сферы матэрыяльнай і ні ў якім выпадку не «ў этычнай сьвядомасьці і ў сферы маральных рашэньняў». Падсумоўваючы свае думкі адносна прагрэсу ды свабоды, Папа выказваецца наступным чынам: «Правільны парадак людзкіх спраў і маральнае здароўе сьвету ніколі нельга было забясьпечыць проста з дапамогай структураў», а таму ў «гэтым сьвеце ніколі не ўсталюецца канчаткова ўмацаванае валадарства дабра» (Spe salvi, 24). Гэткім чынам ня можна зьвязваць надзею з прагрэсам, бо ён абмежаваны сферай матэрыяльнай.

Сапраўдная надзея – гэта надзея не на валадарства чалавека, але на Божае Валадарства, на Бога, Які ёсьць Асобай. «Бог — гэта падмурак надзеі. Не які заўгодна бог, але той Бог, Які мае чалавечае аблічча і Які «палюбіў нас дарэшты» (Ян 13, 1), усіх нас і ўвесь род чалавечы. Яго валадарства не зьяўляецца нечым прыдуманым па-за рэальнасьцю, разьмешчаным у будучым часе, які ніколі не настане. Яго Валадарства прысутнічае там, дзе Яго любяць і дзе Ягоная любоў дасягае нас» (Spe salvi, 31). Акрамя гэтага Папа зьвяртае ўвагу, што мы патрабуем ня толькі «вялікіх» надзеяў, але і надзеяў малых, «якія з дня ў дзень падтрымліваюць нас у шляху» (Spe salvi, 31).

Зрабіўшы нарыс вобразу праўдзівай надзеі, Сьвяты Айцец паказвае таксама, дзе можна вучыцца надзеі і ў ёй практыкавацца. Гэтымі «месцамі» зьяўляюцца: малітва, дзеяньне ды цярпеньне, Апошні Суд. Малітва – гэта размова з Богам: «Калі ніхто мяне больш ня слухае – Бог яшчэ слухае мяне. Калі я не магу больш ні з кім размаўляць і нікога паклікаць – з Богам я магу гаварыць заўсёды» (Spe salvi, 32). Малітва – крыніца надзеі, надзеі на адказ Бога. Папа прыводзіць нам у прыклад асобу кардынала Нгуен Ван Туана, які быў трынаццаць гадоў у вязьніцы, але вытрываў у надзеі, дзякуючы малітве.

Дзеяньне, як крыніца надзеі, азначае, што мы хоць і ня можам збудаваць на зямлі валадарства чалавека, але можам і павінны быць актыўнымі ў гэтым сьвеце. Бо нашыя высілкі маюць сэнс: «Мы можам уратаваць нашае жыцьцё і сьвет ад атручваньня і бруду, якія могуць разбурыць цяперашні і будучы сьвет». Папа кажа, што заўсёды трэба мець надзею на лепшае, «нават, калі ў маім жыцьці або ў дадзены гістарычны момант відавочна, што мне няма на што спадзявацца» (Spe salvi, 35).

Адносна цярпеньня ў энцыкліцы гаворыцца, што яно таксама, як і дзеяньне, належыць да чалавечага існаваньня. Цярпеньне «паходзіць або з абмежаванасьці нашай натуры, або з сукупнасьці грахоў, якія нагрувасьціліся з цягам гісторыі і якія таксама сёньня незваротна нарастаюць» (Spe salvi, 36). У такім кантэксьце, указваючы на тое, што трэба імкнуцца абмежаваць цярпеньне, Папа прыгадвае некаторыя выказваньні в'етнамскага мучаніка Паўла Ле-Бао-Тына († 1857), у якіх паказана, як сіла надзеі, што нараджаецца з веры, перамяняе пакуты. Сярод розных формаў цярпеньня ды пакутаў Сьвяты Айцец зьвяртае ўвагу на карысьць ад пэўнай формы пабожнасьці, якая, паводле Папы, «сёньня,

магчыма, менш распаўсюджаная, але нядаўна была шырока практыкаванай». Папа заахвочвае нас да гэтай пабожнасьці, што палягае на ахвяраваньні малых штодзённых справаў. Тыя людзі, што так робяць, «перакананыя, што могуць уключыць свае нязначныя справы ў вялікае спачуваньне Хрыста і праз гэта далучыцца ў нейкай ступені да скарбу спачуваньня, якога патрабуе чалавецтва» (Spe salvi, 40).

Урэшце і Апошні Суд ёсьць крыніцай надзеі хрысьціяніна. Папа прагне вярнуць ідэю Апошняга Суду з «другога плану». Сьвяты Айцец зьвяртае ўвагу, што «хрысьціянская вера індывідуалізуецца і зьвяртаецца перадусім да асабістага збаўленьня душы» (Spe salvi, 42). Аднак ідэя Апошняга Суду вельмі моцна зьвязаная з ідэяй справядлівасьці і датычыць ня толькі паасобных людзей, але і ўсяго чалавечага грамадзтва. Атэізм XIX і XX стагоддзяў, акцэнтуючы на несправядлівасьці ў гэтым сьвеце, зрабіў выснову, што чалавек сам пакліканы да ўстанаўленьня гэтай справядлівасьці. Папа Бенядыкт XVI адзначае, што на падставе такога сьцьверджаньня «ўзьніклі найгоршыя формы бесчалавечнасьці і парушэньня справядлівасьці – яны грунтаваліся на ўнутранай фальшывасьці такога меркаваньня». Варта тут таксама прывесьці яшчэ адзін сказ Сьвятога Айца на тую ж тэму: «Сьвет, які сам павінен ствараць сваю справядлівасьць,– гэта сьвет без надзеі» (Spe salvi, 42). Менавіта таму Божы Суд «зьяўляецца надзеяй, таму што гэта справядлівасьць, бо гэта ласка» (Spe salvi, 47).

***Заканчэньне***

Новая энцыкліка Папы Бенядыкта XVI «Spe salvi» аказалася цікавай і даволі лёгкай для прачытаньня. Яна заканчваецца малітвай да Багародзіцы Дзевы Марыі, «зоркі надзеі». Вось невялікі фрагмент гэтай малітвы: «Валадарства» Ісуса аказалася не такім, як уяўлялі людзі. [...] Так, Ты застаешся сярод вучняў як іх Маці, як Маці надзеі. Сьвятая Марыя, Маці нашая, навучы нас верыць, мець надзею і любіць разам з Табою. Пакажы нам шлях да Яго валадарства! Зорка мора, сьвяці нам і кіруй намі на нашым шляху» (Spe salvi, 50).

**а. Андрэй Буйніч**
*г.Менск*

Крыніцы духу

## Мітрапаліт Тадэвуш Кандрусевіч

### Стаць надзеяй у нашым сьвеце

*Казаньне на сьвяце парафіі Праведнага Язэпа ў Менску, 30.12.2007.*

*Глыбокапаважаныя ў Валадарстве Пана Браты і Сёстры!*
*Дзякую Богу за магчымасьць сёньня маліцца разам з вамі. Мы добра ведаем, які вялікі Каталіцкі Касьцёл, у каторым многа абрадаў, ня толькі лацінскі, таксама і ўсходнія абрады, сярод якіх і грэка-каталіцкі. І сёньня я з вялікай радасьцю прыняў запрашэньне архімандрыта Сяргея Гаека, Апостальскага візітатара для грэка-католікаў у Беларусі, каб разам з вамі ў гэты сьвяточны час мець Імшу.*



*Каталіцкі Касьцёл лацінскага абраду адзначае сёньня ўрачыстасьць Сьвятой Сям'і. Паводле грэка-каталіцкага календара вы ўспамінаеце сёньня сьвятога Язэпа, які зьяўляецца Апекуном вашай Супольнасьці – першай грэка-каталіцкай парафіі тут, у Менску.*

*Ня можна гаварыць пра Сьвятую Сям'ю, не гаворачы пра сьвятога Язэпа. Бо Сьвятая Сям'я – гэта Езус, Марыя і Язэп. Ня многа знойдзем зьвестак у Сьвятым Пісаньні пра сьвятога Язэпа. Але ёсьць некалькі вельмі важных словаў, а, можа, толькі два словы: «муж справядлівы». Так абвясьціла яго Евангельле. Што гэта значыць: справядлівы? Гэта значыць, што ён чалавек, каторы жыве паводле права Божага, чалавек, каторы любіць Бога, чалавек, каторы слухаецца Яго волі.*

*Разгледзім некаторыя іншыя зьвесткі пра жыцьцё і дзейнасьць сьвятога Язэпа – чалавека, які сапраўды слухаецца волі Божай. Успомнім тую хвіліну, калі яму трэба было ўзяць да сваёй хаты Дзеву Марыю, і ён убачыў, што яна цяжарная. Ён не хацеў зьняславіць Яе, хацеў Яе адпусьціць. Але тады Анёл Панскі яму кажа вельмі важную рэч, ён пасьвячае яго ў таямніцу збаўленьня, што Той, Хто народзіцца з Дзевы Марыі, будзе Сьвятым, што Яна народзіць сьвету Збаўцу. Язэп прымае гэтыя словы як словы Самога Бога. Таксама, як і Дзева Марыя прыняла словы Арханёла Габрыэля падчас Зьвеставаньня, калі той сказаў, што Яна праз Бога была выбраная стаць Маці Збаўцы. Яна тады сказала: «Так, я згаджаюся з воляй Божай». Яна надта не разумела, як гэта здарыцца, але пад Яе сэрцам пачало біцца сэрца Збаўцы. І цяпер у гэтую таямніцу быў пасьвячаны і сьвяты Язэп. Ён таксама гаворыць сваё «так», ён таксама згаджаецца з воляй Божай. Якую веру мусіў мець гэты чалавек? Можа, гэта сон, можа, гэта прыдалося? А ён прымае гэта з чыстым сэрцам. Бо ён быў «муж справядлівы», чалавек, каторы хацеў жыць паводле волі Божай.*

*Далей Язэп ідзе да Бэтлеему, каб запісацца, бо такі быў парадак. А яшчэ далей, сёньняшняе Евангельле нам гаворыць, што калі рука Ірада паднялася супраць нованароджаных дзяцей, бэтлеемскіх немаўлятаў, Язэп зноў прымае голас Анёла. Ён зноў слухаецца яго, бо гэта голас самога Бога. Ідзе, каб ратаваць Езуса, бо рука Ірада паднялася, Ірад нішчыць усіх, хто ва ўзросьце да двух гадоў, каб зьнішчыць Бэтлеемскае Дзіця. Ірад хацеў зьнішчыць Езуса, бо баяўся за сваю ўладу. Сьвяты Язэп ідзе да Ягіпту. А калі зноў прыйшоў час, калі памёр Ірад, ён вяртаецца. Язэп хацеў вярнуцца ў Бэтлеем, але вяртаецца ў Назарэт, каб споўнілася Пісаньне.*

*«Што ж добрага можа быць з Назарэту?» Можа! Бо з Назарэту прыйшоў Той, каторы стаў Збаўцам сьвету. Ён там узрастаў у доме Язэпа і Марыі. Язэп, як Яго выбраны апякун і апякун Маці Божай, быў заклапочаны тым, каб выхоўваць належным спосабам Дзіцятка Езус. Ведаем, што Бацькі Езуса хадзілі да сьвятыні Ерусалімскай, ведаем таксама, што Езус там застаўся, і Язэп разам з Марыяй Яго шукалі. І тады што сказаў дванаццацігадовы Езус да іх? Ён сказаў: «Мне трэба быць у справах Майго Нябеснага Айца». Што гэта значыць, быць у справах Нябеснага Айца? Гэта значыць жыць*

*Богам, гэта значыць жыць так, як хоча Бог, гэта значыць жыць справядліва!*

*Сёньняшняя сям’я перажывае вялікі крызіс. Ці сёньня бацькі клапоцяцца пра тое, каб іх дзеці былі ў справах Божых? Ці сёньня бацькі клапоцяцца пра тое, каб завесьці дзіця да касьцёлу, да царквы? Каб разам з імі распачаць дзень малітваю і закончыць дзень малітваю? Калі ў Беларусі не было сьвятароў, калі не было адчыненых храмаў, калі не было магчымасьці свабодна маліцца – успомнім тыя часы – хто перадаў веру для нас? Нашыя бацькі! Яны былі справядлівыя, яны былі падобныя да Язэпа. Сёньня гэтыя пытаньні ставіць перад намі Царква, ставіць перад намі Сьвяты Айцец, ставіць перад намі Бог. Бо сям’я – гэта пачатак усякай супольнасьці, гэта той фундамент, на каторым супольнасьць расьце, з якога яна вырастае, дзе выхоўваецца гэтая супольнасьць. Ні дзіцячы садок, ні школа, ні ўніверсітэт, ніхто не выхавае маладога чалавека да жыцьця, толькі сям’я. І ў гэтай сям’і, напэўна, вялікая роля маці, але вялікая роля і бацькі. І сёньняшнія бацькі мусяць быць гэтымі «мужамі справядлівымі», мусяць быць ужо Язэпамі дваццаць першага стагоддзя.*

*На жаль, сёньня чалавек усё часьцей і часьцей у нашым сэкулярызаваным сьвеце жыве так, як бы Бога зусім не было. Можа, час ад часу прыйдзе да царквы, можа, трохі памоліцца, а потым далей: «Ты, Пане Божа, застанься тут і не перашкаджай мне, бо я буду жыць сваім жыцьцём». Сёньня справы матэрыяльныя яго больш цікавяць. Сёньня замест таго, каб будаваць цывілізацыю любові, мы будуем цывілізацыю сьмерці. Бо колькі разводаў, колькі забойстваў ненароджанага жыцьця! А гэта ж жыцьцё! Кожны эмбрыён – гэта ўжо жыцьцё!*

*Сёньня такія пытаньні і да іх падобныя мусім мы сабе ставіць. Бо сёньня патрэбныя людзі фармату сьвятога Язэпа, паўтаруся яшчэ раз, Язэпа ўжо дваццаць першага стагоддзя, каторы хоча жыць праўдай Божай, каторы Бога ставіць на першае месца, а не разьлічвае толькі на свае фізічныя сілы, на свой інтэлект, на дасягненьні навукі. Усё гэта добра, але гэта ніколі не замяніць справаў духоўных, гэта ніколі не замяніць духоўнага выхаваньня чалавека, яго духоўнай фармацыі. Мы ведаем, як многа імперыяў будавалі сваю будучыню на дасягненьнях навукі, на сваім розуме, на інтэлекце, ці на іншай сіле. Дзе яны сёньня? Засталіся на старонках гісторыі. Напэўна, добра, што разьвіваецца навука, але мы добра ведаем, што атам можа лячыць, але таксама можа і калечыць. Мы добра ведаем Чарнобыльскую трагедыю, ці Хірасіму, ці Нагасакі. Мы таксама цешымся з разьвіцьця іншых навук, медычных навук, але ж мы добра ведаем, што ў гэтых добрых лякарскіх кабінетах, абсталяваных па апошніх дасягненьнях медычнай навукі, сёньня рука Ірада дваццаць першага стагоддзя забівае ненароджаных дзяцей.*

*Гэтыя ёсьць праблемы, на каторыя трэба сёньня адказаць. Да гэтага заклікае нас сёньняшняе сьвята. Сьвята Сьвятой Сям’і і Ўспамін сьвятога Язэпа.*

*Браты і Сёстры!*

*Вашая Супольнасьць ня надта вялікая, але зерне таксама ёсьць малое. Але яно потым дае ўсходы, прыносіць свае плёны, новае зерне прыносіць. І таксама, можа, ніхто і ня ведаў бы пра гэтага Язэпа, можа, ніхто і ня чуў бы пра яго. Але сёньня Царква паўтарае яго імя, бо ён упісаўся ў нашую гісторыю, ён зьяўляецца апекуном Царквы, ён зьяўляецца нашым апекуном.*

*Сёньня я прашу разам з вамі Бога, каб Ён апекаваўся вашай парафіяльнай Супольнасьцю, каб яна была справядлівай перад Богам і перад людзьмі, каб яна жыла Богам ня толькі падчас набажэнстваў у царкве, але каб яна жыла Богам і за парогам царквы. Каб яна была сьведкам Езуса, каторы прыйшоў на гэты сьвет у Бэтлееме. Таго ж самага Езуса, каторы адкупіў нас на Галгофе, Таго ж самага Езуса, каторы вядзе нас у новае жыцьцё.*

*Сьвяты Айцец Бенядыкт XIV зусім нядаўна, у Адвэнце, выдаў сваю найноўшую энцыкліку, каторая распачынаецца лацінскімі словамі «Spe salvi», гэта значыць «Мы выратаваныя, збаўленыя ў надзеі». І гэтая надзея – як піша Сьвяты Айцец Бенядыкт XIV – зьяўляецца ў нашым Пану, нашым Госпадзе Езусе Хрысьце.*

*Няхай той, каторы песьціў Дзіцятка Езус, песьціць усіх вас, гэтую вашую супольнасьць, каб яна сталася новай надзеяй у нашым сьвеце, для нашага збаўленьня і на хвалу Пана Бога. Амэн.*

Наша вера

## Раство з Нунцыем

***Апостальскі Нунцый у Беларусі архібіскуп Марцін Відавіч у сьвятую ноч Раства Хрыстова 24 сьнежня 2007 году маліўся разам з менскімі грэка-каталікамі.***



Нараджэньне Хрыстова вернікі ўсіх чатырох грэка-каталіцкіх парафіяў Менску сёлета сустракалі разам, у касьцёле сьвятых Сымона і Алены. Сьвяточную Боскую Літургію ўзначаліў Апостальскі Нунцый у Беларусі Архібіскуп Марцін Відавіч у саслужэньні Апостальскага Візітатара для грэка-католікаў Беларусі Архімандрыта Сяргея (Гаека) і душпастыраў менскіх грэка-каталіцкіх парафіяў: айца-дэкана Андрэя Абламейкі, а. Казіміра Ляховіча, а. Андрэя Буйніча і а. Яўгена Ўсошына, а таксама гасьціннага пробашча касьцёла сьвятых Сымона і Алены ксяндза-дэкана Ўладзіслава Завальнюка. У калядным набажэнстве ўдзельнічалі таксама грэка-каталікі з мясцовасьцяў пад Менскам: з Мар'інай Горкі, Жодзіна, Барысава ды іншых. Сумесны сьпеў вернікаў узначалілі хоры парафіі Маці Божай Нястомнай Дапамогі і парафіі Праведнага Язэпа.

Як адзначыў у сваім кароткім казаньні Архімандрыт Сяргей (Гаек), прысутнасьць Апостальскага Нунцыя на сьвяточнай службе сярод грэка-каталікоў стала яскравым сьведчаньнем паўсюднасьці Каталіцкай Царквы, часткай якой зьяўляюцца вернікі візантыйскага абраду. Архімандрыт зьвярнуў таксама ўвагу вернікаў, што сьвяты Раства Хрыстовага, калі віншуем адзін аднаго,– гэта добры час, каб маліцца за Беларусь. І гэта заданьне для ўсіх хрысьціянскіх Цэркваў у Беларусі.

На заканчэньне Боскай Літургіі Апостальскі Нунцый зьвярнуўся да вернікаў са словамі віншаваньняў і, як выраз малітоўнай блізкасьці Папы і ўмацаваньне ў каталіцкай веры, перадаў прысутным прывітаньне і Блаславеньне Сьвятога Айца Бенядыкта XVI.

**На фота:** Менск, 24.12.2007. Сьвяточная калядная Літургія менскіх грэка-каталікоў з Апостальскім Нунцыем у Чырвоным касьцёле.

**Гл. таксама:** Віншавальнае Слова Апостальскага Нунцыя да вернікаў парафій візантыйскага абраду ў г.Менску

Наша вера

## Віншавальнае Слова
## Апостальскага Нунцыя

*да вернікаў парафій візантыйскага абраду ў г.Менску*



**1.** Christus natus est nobis: venite, adoremus! Хрыстос нарадзіўся нам: прыйдзіце, славім Яго! Гэтымі словамі з Літургіі рымскага абраду, якія прадстаўляюць радасную вестку збаўленьня і, адначасова, самае шчырае пажаданьне, што можа выплываць з сэрца хрысьціяніна, вітаю вас, дарагія Браты і Сёстры, кожнага паасобку, пачынаючы ад Вялебнага Архімандрыта Сяргея (Гаека) – вашага Апостальскага Візітатара, і вашых Сьвятароў.

У вашых асобах і праз Вас я хацеў бы прывітаць усіх Вернікаў візантыйскага або грэцкага абраду ў Беларусі ды скласьці віншаваньні з нагоды Нараджэньня нашага Госпада Ісуса Хрыста.

У гэтых віншаваньнях перадаю вам Прывітаньне і Апостальскае Блаславеньне Сьвятога Айца Бенядыкта XVI, якія выражаюць Ягоную малітоўную блізкасьць да вашых Супольнасьцяў, і Ягоную любоў, што хоча ўмацаваць вас у веры каталіцкай, якую адважна вызнаеце і дзеля якой у мінулым вы шмат разоў далі прыгожае сьведчаньне мужнасьці і надзеі.

**2.** Хрыстос нарадзіўся нам! Хадземце пакланіцца Яму разам з пастушкамі з Бэтлеему (пар. Лк 2, 8-18) і з мудрацамі, што прыбылі з Усходу (пар. Мц 2, 1-12).

Я вельмі рады, што магу разьдзяліць з вамі радасьць Божага Нараджэньня і служыць Боскую Літургію сёньняшняй урачыстасьці, што прыгадвае прыйсьце «поўні часоў» (Гал 4, 4) і зьяўлеьнне «спагадлівасьці і чалавекалюбства Бога і Збаўцы нашага» (Ціт 3, 4).

**3.** Няхай у гэтую сьвятую ноч радасная вестка Нараджэньня Госпада нашага Ісуса Хрыста адгукнецца рэхам па ўсім каталіцкім сьвеце, ажно да найдалейшых межаў зямлі.

О, змагла б гэтая вестка дайсьці да сэрца кожнага мужчыны і кожнай жанчыны нашага часу, каб яны ў Дзіцятку, што ляжыць у ясьлях, вызналі Бога спрадвечнага, народжанага «дзеля нас людзей і дзеля нашага збаўленьня» (Нікеа-канстанцінопальскі Сымбаль веры); Бога, Які ёсьць любоў (пар. 1 Ян 4, 8. 16) і Які з любові стварыў чалавека на свой вобраз і падабенства; стварыў яго мужчынам і жанчынай (Быц 1, 26-27); і пасьля, як зграшылі (пар. Быц 2, 15-17; 3), адкупіў іх на Крыжы. Ён стаўся целам і пасяліўся паміж намі (Ян 1,14).

Хто можа застацца нячулым на такую любоў? Прымем яе ў нашыя сэрцы, у нашыя сем’і, у нашае жыцьцё! Сам Бог прыходзіць, каб даць нам свой мір і сваё збаўленьне.

**4.** Мае віншаваньні накіроўваю да кожнага з вас, да вашых блізкіх, да ўсіх хрысьціянаў і ўсіх людзей добрай волі гэтай улюбёнай краіны – Беларусі, якая ёсьць вашай бацькаўшчынай на зямлі. Зьвяртаюся да вас з сардэчнымі віншаваньнямі ў сьвята Раства Хрыстовага і пакорліва малюся да Божага Дзіцятка, каб Ён спасылаў вам Сваё Блаславеньне таксама і ў новым годзе.

З усімі няхай будзе ласка і мір Божы!

*25.12.2007, г.Менск*

**+ Архібіскуп Марцін Відавіч**

**На фота:** *Менск, 24.12.2007. Апостальскі Нунцый у Беларусі архібіскуп Марцін Відавіч віншуе з Калядамі менскіх грэка-каталікоў.*

**Гл. таксама:** Раства з Нунцыем

Наша вера

## Малітва за еднасьць у санктуарыюме
## Маці Божае з Усьмешкаю

***27 студзеня 2007 году Апостальскі Візітатар для грэка-католікаў Беларусі Архімандрыт Сяргей (Гаек) адслужыў урачыстую Боскую Літургію ў візантыйска-славянскім абрадзе ў мястэчку Пшоў, што знаходзіцца ў Катавіцкай рыма-каталіцкай япархіі ў Польшчы.***

Гэтая ўсходняя літургія сталася для мясцовай Царквы ў польскай Сілезіі ўрачыстым завяршэньнем Тыдня малітваў за еднасьць хрысьціянаў. Ініцыятарам такога знаёмства з багацьцем літургічнай традыцыі хрысьціянскага Ўсходу стаў шматгадовы супрацоўнік Кангрэгацыіі Ўсходніх Цэркваў айцец-мітрат Люцыян Ламжа, які паходзіць з Пшова. Шмат гадоў ён аддаў таксама працы ў калегіюме «Русікум» у Рыме.

Мястэчка Пшоў вядомае сваёй цудатворнай іконаю, якая носіць назву Маці Божая з Усьмешкаю. У 1722 годзе пілігрымы з пшоўскай парафіі, якія наведалі Чанстахову, прывезьлі для свайго пробашча, які ня змог з-за хваробы ўзяць удзел у пілігрымцы да Маці Божай, копію Яе цудатворнага абраза, які быў прыкладзены да арыгіналу (такая практыка існавала ў тыя часы для асьвячэньня рэчаў). Сталася так, што падчас падарожжа абраз быў пашкоджаны, і таму сьвятар перадаў яго мясцоваму мастаку для рэстаўрацыі. Аднак той, з невядомых прычынаў, вырашыў істотна зьмяніць выгляд твараў на іконе. Аблічча Багародзіцы мастак зрабіў больш сьветлым, а на яе вуснах зьявілася ўсьмешка. У хуткім часе ікону пачалі называць Маці Божая Пшоўская альбо «з Усьмешкаю».

Абраз Маці Божай быў тройчы каранаваны. Першая каранацыя адбылася ў 1732 годзе, але ў 1976-ым гэтыя кароны былі скрадзеныя. У 1979 годзе абраз зноў быў урачыста ўпрыгожаны залатымі каронамі, пасьвячанымі Сьвятым Айцом Янам Паўлам ІІ, але невядомыя злачынцы скралі іх у 1989-ым. У 2002 годзе адбылася чарговая, трэцяя каранацыя Маці Божай з Усьмешкаю.

Багаслужба за еднасьць хрысьціянаў перад цудатворнаю іконаю Маці Божай мела асаблівы характар яшчэ й дзякуючы ўдзелу ў ёй прадстаўнікоў розных краінаў і лакальных Цэркваў. Разам з Апостальскім Візітатарам беларускіх грэка-католікаў архім. Сяргеем Гаекам саслужылі айцец-мітрат Люцыян Ламжа, сьвятар з дыяцэзіі Фульда ў Нямеччыне, айцец Казімір Міхулец — рэктар калегіюма айцоў езуітаў у Новым Сончы, душпастыр гарадзенскай грэка-каталіцкай парафіі айцец Андрэй Крот, а дыяканскае служэньне падчас Боскай Літургіі нёс айцец протадыякан Мар’ян Мэдвід з Мукачава (Украіна). А хор пшоўскай парафіі ўпрыгожыў набажэнства цудоўным сьпевам на царкоўнаславянскай мове.

Наша вера

## Экуменічная малітва ў Менску

***Экуменічная малітоўная сустрэча хрысьціянаў розных канфесіяў адбылася ў Менску, у чацьвер, 24 студзеня 2008 году. Праходзіла яна напрыканцы Тыдня малітваў за еднасьць хрысьціянаў, якія штогод адзначаецца ва ўсёй Каталіцкай Царкве з 18 па 25 студзеня.***

Месцам сустрэчы стала рыма-каталіцкая катэдра Імя Найсьвяцейшай Панны Марыі. У ёй бралі ўдзел каталікі лацінскага і візантыйскага абрадаў, праваслаўныя, лютэране і евангельскія хрысьціяне.

На пачатку сустрэчы была адслужана сьвятая Імша, на якой прысутнічалі шматлікія вернікі. Яе ўзначальваў рыма-каталіцкі мітрапаліт Тадэвуш Кандрусевіч, якому саслужылі Апостальскі візітатар для грэка-католікаў Беларусі Архімандрыт Сяргей (Гаек), а таксама сьвятары Менска-Магілёўскай архідыяцэзіі і Віцебскай дыяцэзіі.

Пасьля імшы распачалася экуменічная малітва, якую распачаў Уладыка Т.Кандрусевіч. Непасрэдны ўдзел у ёй узялі таксама архім. Сяргей Гаек, айцец Аляксандр Шымбалёў – кіраўнік Аддзелу адукацыі і катэхізацыі Менскай япархіі Беларускай Праваслаўнай Царквы МП, кіраўнік Самастойнай Евангелічна-Лютэранскай Царквы ў Рэспубліцы Беларусь дыякан Уладзімір Меерсан, старшыня Беларускага біблійнага таварыства Герман Родаў. Кожны з іх зьвярнуўся да прысутных з кароткай прамовай-казаньнем.

У сваёй прамове Апостальскі візітатар для беларускіх грэка-католікаў а. Сяргей Гаек зьвярнуў увагу на тое, што, дзякуючы руплівай працы нашага асьветніка Францішка Скарыны, яшчэ амаль паўтысячагоддзя таму беларусы займелі сваю друкаваную Біблію на старабеларускай мове. І гэты факт павінен нас, беларусаў, мабілізоўваць ды натхняць да чытаньня Сьвятога Пісьма на роднай мове.

Трэба адзначыць, пасьля гэтай экуменічнай сустрэчы ў мас-медыях прагучалі і крытычныя водгукі на яе. На думку некаторых хрысьціянаў, калі па-сапраўднаму дбаць пра разьвіцьцё экуменізму ў Беларусі, зусім недастаткова, каб сустракаліся толькі кіраўнікі асобных канфесіяў і гаварылі раз у год прыгожыя словы – трэба, каб брацкая любоў паміж усімі хрысьціянамі была ў нашым штодзённым жыцьці, каб праз вырашэньне канкрэтных праблемаў узмацнялася наша ўзаемасалідарнасьць і сумеснае сьведчаньне Хрыста.

Наша вера

# З Беззаганна Зачатай – у будучыню

***Пад такім заклікам 9 лютага 2008 году ў менскім касьцёле Сьвятых Сымона і Алены прайшоў сімпозіюм, прысьвечаны 150-гадоваму юбілею аб'яўленьняў Маці Божай у Люрдзе.***

У сустрэчы бралі ўдзел архібіскуп Тадэвуш Кандрусевіч, Мітрапаліт Менска-Магілёўскі, архібіскуп Марцін Відавіч, Апостальскі Нунцый у Беларусі, сьвятары і вернікі з Беларусі і Расеі, а таксама прадстаўнік Беларускай Праваслаўнай Царквы (Беларускага Экзархату РПЦ МП), кіраўнік аддзела адукацыі і катэхізацыі Менскай япархіі, выкладчык Беларускага педагагічнага ўніверсітэту і тэалагічнага факультэту імя сьв. Кірылы і Мятода Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэту а. Аляксандр Шымбалёў. Беларускую Грэка-Каталіцкую Царкву на сімпозіюме прадстаўлялі а. Аляксандр Шаўцоў і а. Андрэй Буйніч, схіманахіня Вікторыя Чэкан, а ў другой частцы да ўдзельнікаў далучыліся а. Казімір Ляховіч і Апостальскі Візітатар архімандрыт Сяргей Гаек, якія ўдзельнічалі ва ўрачыстай Імшы на заканчэньне сімпозіюму.

З прывітальным словам на пачатку сімпозіюма да прысутных зьвярнуўся Мітрапаліт Менска-Магілёўскі архібіскуп Тадэвуш Кандрусевіч, які таксама выступіў з дакладам на тэму «Беззаганна Зачатая Багародзіца – зорка надзеі». Каталіцкае вучэньне пра Беззаганнае Зачацьце Багародзіцы і яго разуменьне ў сьвятле аб'яўленьняў Маці Божай у Парыжы і Люрдзе раскрылі выкладчыкі Вышэйшай духоўнай семінарыі ў Горадні кс. Уладзімір Гуляй і кс. Тадэвуш Вышынскі. Айцец Аляксандр Шымбалёў распавёў пра некаторыя асьпекты праваслаўнага вучэньня пра Найсьвяцейшую Багародзіцу.

Актуальнасьці аб'яўленьняў Багародзіцы ў Люрдзе і Фаціме прысьвяціў свой даклад кс. Кшыштаф Пажарскі, пробашч парафіі сьв. Станіслава ў Санкт-Пецярбургу. Другі госьць з Расеі – кс. пралат Андрэй Стэцкевіч, Генеральны вікарый рыма-каталіцкай архідыяцэзіі Маці Божай у Маскве і выкладчык Вышэйшай духоўнай семінарыі «Марыя – Каралева Апосталаў» у Санкт-Пецярбургу, прачытаў даклад на тэму «Заклік да пакаяньня – цэнтральная тэма аб'яўленьняў у Люрдзе і Фаціме».

Пра разьвіцьцё культу Беззаганнага Зачацьця Багародзіцы ў Беларусі распавёў пробашч парафіі сьв. Яна Хрысьціцеля ў Менску кс. Ігар Лашук SDB, які між іншым таксама зазначыў, што культ Беззаганнага Зачацьця быў характэрны таксама і для Грэка-Каталіцкай Царквы, і прывёў да прыкладу некалькі назваў уніяцкіх цэркваў на тэрыторыі Беларусі.

Завяршыўся сімпозіюм сьведчаньнямі вернікаў пра ролю Багародзіцы ў іхнім жыцьці і пра асабістае перажываньне аб'яўленьняў Маці Божай у Люрдзе.

Царква і грамадзтва

# Сур'ёзнае пытаньне

***Пачынаючы з гэтага году, Евангелісцка-Лютэранская Царква Швецыі будзе бласлаўляць гомасэксуальныя шлюбы. Адпаведнае рашэньне было яшчэ летась прынята на сінодзе Царквы і сталася лагічным працягам сітуацыі, якая запанавала ў гэтай скандынаўскай краіне на працягу апошніх гадоў. Гэтая сітуацыя, зьнешне вельмі далёкая і неактуальная для нас, прымушае, аднак, паставіць і перад сабою некаторыя сур’ёзныя пытаньні.***

**А**сновай для падобнага рашэньня, за якое аддалі свае галасы 2/3 членаў сіноду Царквы, стаў новы дзяржаўны закон, паводле якога ўсе ўстановы па рэгістрацыі грамадзянскага стану ня маюць права адмаўляць у рэгістрацыі саюзаў паміж асобамі аднаго полу. У супрацьлеглым выпадку ім пагражаюць санкцыі ўключна з ліквідацыяй. Евангелісцка-Лютэранская Царква Швецыі, якая зьяўляецца дзяржаўнай і найбуйнейшай па колькасьці вернікаў канфесіяй краіны, адносіцца ўласна да такіх установаў. Іншым гучным прыкладам адносінаў Царквы і сэксуальных меншасьцяў у сучаснай Швецыі быў леташні судовы працэс над пастарам Ааке Грынам, які дазволіў сабе hate speech (анг. – рэзкія выказваньні) на адрас гомасэксуалістаў, назваўшы іх «ракавай пухлінай усяго грамадзтва». Пастар адсядзеў месяц у вязьніцы па абвінавачаньні ў распальваньні нянавісьці да сэксуальных меншасьцяў і быў апраўданы толькі пасьля паўторнага працэсу.

Ня трэба думаць, што падобная сітуацыя характэрна толькі для Швецыі. На працягу апошніх гадоў у шэрагу еўрапейскіх краінаў былі прынятыя законы, якія легалізавалі аднаполавыя саюзы або дазволілі на ўсынаўленьне дзяцей такімі парамі. Таксама раз-пораз адбываюцца судовыя працэсы супраць асобных біскупаў ці сьвятароў, якія публічна абвяшчаюць пазіцыю Царквы ў адносінах да гэтай зьявы. Найбольшы розгалас сярод справаў такога роду атрымала адстаўка з пасады камісара Еўразьвязу па пытаньнях юстыцыі, грамадзянскіх свабод і бясьпекі італійца Рока Буцільёнэ (Rocco Buttiglione) толькі за тое, што ён адкрыта назваў гомасэксуалізм грахом, хоць і адзначыў, што не зьбіраецца парушаць правы сэксуальных меншасьцяў.

**Т**акім чынам, у апошнім дзесяцігоддзі ў Заходняй Еўропе і Паўночнай Амерыцы сталіся рэальнасьцю, у тым ліку і ў прававой сферы, працэсы, якія распачаліся так званай «сэксуальнай рэвалюцыяй» шасьцідзясятых гадоў мінулага стагоддзя. Тагачасныя сацыяльныя зьмены былі названыя «рэвалюцыяй» у адносінах да папярэдняга нарматыўнага стану заходняга грамадзтва, якое дэкларавала хрысьціянства і яго маральныя прынцыпы як аснову грамадзкага жыцьця. Наколькі гэтая дэкларацыя адпавядала рэальнасьці – іншая справа. Але адкіданьне гэтае дэкларацыі азначала для вялікай часткі грамадзтва канчатковы разрыў з хрысьціянскімі маральнымі каштоўнасьцямі. З хрысьціянскага пункту гледжаньня тыя падзеі саракагадовай даўнасьці можна назваць хутчэй «сэксуальнай контррэвалюцыяй», паколькі сапраўдную рэвалюцыю заходняе грамадзтва перажыло пасьля легалізацыі хрысьціянства яшчэ ў IV стагоддзі пасьля Хрыста. Уласна тады, дзякуючы хрысьціянізацыі і разьвіцьцю манаскага руху, былі выкінуты на «сьметнік гісторыі» сэксуальная разбэшчанасьць і гомасэксуалізм як норма паводзінаў, якімі вызначалася Рымская імперыя ў папярэднюю эпоху. Але, на жаль, як кажа Евангельле, «сабака павяртаецца на ваніты свае», і сучасны заходні хрысьціянін рызыкуе сёньня апынуцца ў сітуацыі, знаёмай яму толькі па творах царкоўнай гісторыі.

**Я**к ужо было сказана вышэй, гэтыя праблемы ёсьць для нас яшчэ шмат у чым чужымі і неактуальнымі. У кожнай асобнай краіне секулярызм мае «нацыянальнае» аблічча і за вельмі featureзнымі зьнешнімі рысамі часта цяжка распазнаць той самы феномен. Савецкая эпоха, зьвязаныя з ёй ізаляцыя і палітыка дзяржаўнага атэізму, стварылі ў нас сітуацыю, вельмі адрозную ад заходняй. Адзінае, на што важна зважаць нам ужо сёньня,– гэта тое, што пры кантактах з прадстаўнікамі заходняга сьвету варта не забывацца пра «паліткарэктнасьць» у выказваньнях на такія далікатныя тэмы. Ня ведаем, аднак, што нас чакае заўтра. Калі сёньня гаворыцца пра еўрапейскую будучыню Беларусі – гэта, між іншым, можа азначаць, што ў будучым мы таксама сутыкнемся са спробамі пабудовы грамадзкага жыцьця на асновах ня толькі нацыянальнай, рэлігійнай, але і сэксуальнай цярпімасьці. Ці зможа тады нашае грамадзтва, зьнякроўленае фізічна і духоўна дзесяцігоддзямі камунізму й дзяржаўнага атэізму, супрацьстаяць спакусе такім лёгкім шляхам далучыцца да «цывілізаванага» сьвету? Ці змогуць тады хрысьціяне Беларусі супрацьстаяць гэтай небясьпецы хаця б у такой меры пасьпяхова, як гэта робяць сёньня хрысьціяне Захаду?

Для нас знаёмая сітуацыя, калі дзяржаўныя законы бываюць скіраваныя на перасьледаваньне і маргіналізацыю Царквы. Так было, напрыклад, у СССР. Навучаныя папярэднім досьведам, мы зможам пасьпяхова змагацца з гэтымі рэчамі толькі тады, калі будзем рабіць гэта супольна, адкінуўшы ўбок дробныя супярэчнасьці і асабістыя амбіцыі. Складанасьць сітуацыі ёсьць у іншым. Як мы ўжо бачылі на прыкладзе Евангелісцка-Лютэранскай Царквы Швецыі, пытаньне сэксуальных меншасьцяў, таксама як эўтаназіі, абортаў, кланаваньня і іншыя, пачынаюць разьдзяляць Царкву знутры. У шведзкім выпадку вялікая частка кліру і вернікаў згаданае Царквы ўжо заявіла пра сваю рашучасьць

шукаць асобнае юрысдыкцыі, каб толькі ня быць зьвязанымі «паліткарэктнымі» рашэньнямі сіноду. Можа, найбольш дзіўна, што гэты канфлікт разгортваецца ў адной з рэфармацкіх Цэркваў, для якіх заўсёды быў падставовым аўтарытэт Божага Слова, якое адназначна асуджае гомасэксуалізм. Дзе падзеўся цяпер гэты аўтарытэт, чаму замест Божага закону хрысьціяне вырашаюць сьледаваць чалавечым пастановам?

**Д**ухоўны вымер гэтае праблемы добра вядомы. Гэта – грэх. Ён ёсьць сілай здольнай разьдзяліць чалавека з Богам, людзей адзін з адным. Калі чалавек прымае яго, «прычашчаецца» гэтага граху, тады той стаецца рэальнасьцю ўнутранага жыцьця чалавека, вызначае ягоную сьвядомасьць і ўчынкі. «Вуглавым каменем» гэтае праблемы, які вызначыў пазьнейшае рашэньне ярархіі, было ня новае заканадаўства, але прысутнасьць сэксуальных меншасьцяў унутры Царквы. І ня проста прысутнасьць, але іх актыўная пазіцыя ў абароне свайго права на маральную аўтаномнасьць. Нават перад абліччам аўтарытэту Божага слова.

Даўно мінулі часы Сярэднявечча, калі людзей маглі прымушаць да веры. Сёньня чалавек, нават калі ён быў ахрышчаны ў дзяцінстве, у дарослым узросьце мае поўную магчымасьць сьвядома адмовіцца ад нежаданага дару. Калі некаму не падабаецца хрысьціянства, з ягонымі дагматычнымі і маральнымі прынцыпамі, на «рэлігійным рынку» знойдзецца вялікі выбар дактрын на любы густ. Але не – людзі выбіраюць хрысьціянскую дактрыну, толькі вось у маральных пытаньнях хочуць кіравацца ўласнымі дактрынамі. Больш таго, імкнуцца навязаць іх усёй Царкве з дапамогаю грамадзкіх механізмаў і сьвецкай улады. У параўнаньні з гэтай сітуацыяй, перасьледаваньні Нэрона выглядаюць прымітыўнымі дзіцячымі забаўкамі. Бо тут ужо ідзе гаворка не пра супярэчнасьці паміж асобнымі супольнасьцямі або хрысьціянамі, але пра самыя падставовыя пытаньні. Што такое хрысьціянства? Чым ёсьць Царква? Што прапаведваў Госпад? Гэта тыя пытаньні, якія адносяцца да самой істоты, унутранага стрыжня хрысьціянства. Дзеля гэтага і закруціўся ўвесь гэты «сыр-бор».

**К**алі перад намі самімі паўстаюць сёньня такія сур’ёзныя пытаньні, мы ня можам спадзявацца адразу даць на іх лёгкія і простыя адказы. Завучаныя ў дзяцінстве радкі з катэхізму або пакорлівае «раз так сказалі, значыць так яно і ёсьць», гучаць непераканаўча на фоне рэальных праблемаў. Ці здольныя мы на сур’ёзныя адказы на гэтыя пытаньні? Ці толькі, па-беларуску запаволена, будзем думаць, як зрэагаваць на адну праблему, у той час, як зьяўляецца ўжо наступная? Жыцьцё – гэта творчасьць, а не рэагаваньне. Патрэбна сьвядома і загадзя фармаваць нашу хрысьціянскую пазіцыю ў адносінах да розных няпростых пытаньняў і зьяваў грамадзкага жыцьця. Пасьля гэтага трэба зьбіраць здаровыя сілы для канкрэтнага іх вырашэньня.

**М**ы часта чуем заклікі да штодзённага чытаньня Бібліі, але не разумеем, што гаворка ідзе ня проста пра набожнае выкананьне хрысьціянскіх абавязкаў. Божае Слова ёсьць галоўнай крыніцай, у сьвятле якой мы можам правільна пабачыць, ацаніць і знайсьці адказ на пытаньні хрысьціянскага жыцьця. Гэта той узор, ня бачачы якога перад сабою, мы абавязкова пачнем перабудоўваць Царкву «на ўласны вобраз і ўпадабаньне». У той жа час, наша ўласнае жыцьцё ёсьць падобна да Бібліі. Яно адлюстроўвае Божую дзею, у ім Бог адкрывае нам Сябе. Навучыцца чытаць гэтую «кнігу», распазнаваць Бога за рознымі абставінамі – гэта азначае стаць чалавекам, здольным рэальна пабачыць Бога ў сваім жыцьці.

**Ч**аста нам хочацца, каб навучаньне Царквы выглядала так проста, як інструкцыя для карыстаньня тэлевізарам або пыласмокам: усё па пунктах, з схемамі й малюнкамі, якія б давалі нам дакладныя ўказаньні, як і што трэба рабіць у хрысьціянскім жыцьці, каб нічога там «не сапсаваць». Жыцьцё, аднак, мае такую ўласьцівасьць, што самыя дэтальныя інструкцыі хутка губляюць сваю актуальнасьць і робяцца няздатнымі растлумачыць хрысьціяніну, як карыстацца атрыманымі ім Божымі дарамі. Але вечныя адказы Божага Слова застаюцца актуальнымі заўсёды. Унутрана моцная і адзіная Царква заўсёды ёсьць адкрытая на Божае Слова і гатовая сьведчыць яго да канца. Калі ж гэтае еднасьці няма і кожны кіруецца ўласнымі законамі, тады няма сілы супрацьстаяць законам гэтага сьвету і застаецца толькі трымацца «паліткарэктнасьці».

**Н**я хочацца, каб гэты тэкст успрымаўся як канчатковы прысуд для дэхрысьціянізаванага заходняга грамадзтва або як спосаб прылюднага асуджэньня грэшнікаў. Чалавеку з калодай ва ўласным воку, як кажа пра гэта Хрыстос, ня так проста разглядзець парушынку ў воку свайго бліжняга. Але хочацца, каб, пабачыўшы вастрыню праблемаў, якія стаяць сёньня перад Хрыстовай Царквой, мы ў еднасьці і пакорлівасьці ўзьнесьлі рукі да Госпада, каб Ён даў нам сьвятло пазнаць Ягоную праўду і сілы быць заўсёды вернымі ёй.

Алесь Сямчонак

Царква і грамадзтва

## Каму дапамагаюць майстры «Таро»?

*Пра тое, як нам прапануюць вырашаць жыцьцёвыя праблемы*

Ад нядаўняга часу на беларускіх тэлеканалах зьявілася шмат навязлівай рэкламы розных псеўдапсіхолагаў-варажбітоў, якія абяцаюць хутка дапамагчы ў вырашэньні любой, самай складанай жыцьцёвай сітуацыі. Для вырашэньня вашых праблемаў гэтыя «сьпецыялісты» карыстаюцца… картамі «Таро».

Пашукавік Google выдае больш за сем тысячаў спасылак на «Таро» толькі ў беларускім інтэрнэце, большасьць з якіх – гэта рэклама розных «call-цэнтраў» («цэнтраў экстранай псіхалагічнай дапамогі»). «Я таксама ня верыла, але ў цяжкую хвіліну яны мне вельмі дапамаглі»,– пэўны час пераконвала нас з экрану нават адна вядомая беларуская поп-сьпявачка. Ня дзіва, што, наглядзеўшыся падобнай рэкламы па грамадзкім тэлебачаньні, недасьведчаная жанчына, сутыкнуўшыся з цяжарам жыцьцёвых праблемаў, у роспачы можа і задумаецца: «А раптам сапраўды дапаможа? Усё ў мяне ня так, і муж кінуў… Я ж ужо ўсё перапрабавала…»

Дык што, можа гэтыя загадкавыя майстры «Таро» ведаюць рацэпт шчасьця і вырашэньня праблемаў? Але ж ці ня маем мы тут справу з чарговай спробай зарабіць добрыя грошы на людзкой даверлівасьці? І ці ня ёсьць гэта ня проста «псіхалагічны бізнэс», а штосьці больш небясьпечнае?..

Спосаб прадказаньня, вядомы як «Таро», узьнік на падставе звычайных картаў для гульні. У Эўропе карты атрымалі пашырэньне на мяжы XIII-XIV стагоддзяў. Яны былі перанятыя ад арабаў падчас крыжовых паходаў. Для еўрапейцаў карты сталіся ня толькі гульнёю, але і спосабам прадказаньня будучыні. У XIV стагоддзі ў Італіі зьяўляюцца карты «Таро». У адрозьненьні ад звычайных картаў для гульні, якія мелі тады толькі лічбавае значэньне, кожная з картаў «Таро» мае сваё сымбалічнае значэньне. На іх намаляваныя алегарычныя выявы сілаў прыроды (сонца, месяц, сусьвет), рэлігійныя сымбалі (страшны суд, д’ябал, першасьвятарка), людзкія цноты (справядлівасьць, устрыманасьць) і заганы. Усіх картаў «Таро» дваццаць дзьве, яны называюцца «Вялікаю Арканаю». Для варажбы карты «Таро» перамешваюць са звычайнымі, якія ў сістэме «Таро» носяць назву «Малой Арканы». Адэпты «Таро», стараючыся прывязаць іх да больш старажытнай і таямнічай традыцыі, шукаюць яго вытокаў ці то ў старажытным Ягіпце («Таро» мелася б адлюстроўваць культ пакланеньня Ісідзе), ці сярод цыганаў, ці ў габрэйскай кабале (22 карты «Таро» нібы адпавядаюць 22 літарам габрэйскага алфавіту).

Аматары сістэмы «Таро» бачаць у ёй ня толькі спосаб простага прадказаньня будучыні. Для іх карты «Таро» маюць некалькі ўзроўняў сымболікі, і медытацыя над іх выявамі нібы прыводзіць да спазнаньня і зразуменьня нейкіх вялікіх тайнаў. Прыхільнікі розных містычных плыняў (тэасофы, розенкрэйцары, кабалісты і франкамасоны) выкарыстоўваюць сымболіку «Таро» ў сваіх сістэмах і абрадах; яны лічаць, што сымбалі «Таро» захоўваюць нейкую старажытную традыцыю, таемную навуку. І толькі абраныя могуць пазнаць гэтыя таямнічыя праўды.

Такая «таямнічасьць» вельмі дапамагае ў варажбе «Таро», таму што няма адзінай сістэмы тлумачэньня гэтых карт. Да таго ж існуе мноства сістэмаў іх раскладаньня. Калі дадаць да гэтага вялікую колькасьць карт Вялікай і Малой Арканы, то магчымасьць іх камбінацыі будзе бясконцаю. У розных крыніцах прыводзіцца рознае тлумачэньне значэньня тых самых картаў, якое часамі цалкам супярэчыць адно аднаму. Такім чынам тлумачэньне картаў залежыць ад мноства суб’ектыўных фактараў, а «дасьведчаным майстрам» «Таро» мае шанец стаць найперш той, хто мае добрую інтуіцыю альбо фантазію.

Сярод карт «Таро» існуюць і сымбалі, падобныя да біблейскіх. Напрыклад, на карце «Кола фартуны» намаляваныя чатыры істоты, падобныя да вобразу з кнігі прарока Езэкііля, а над імі – сьвятая тэтраграма YHWH (Ягвэ). Карта «Павешаны» – гэта чалавек, прывязаны да крыжа, карта «Страшны Суд» адлюстроўвае выяву ўваскрасеньня памерлых і анёла з трубою, а «Фул» уяўляе сабой сымбаль, які нагадвае традыцыйную выяву Хрыста. Некаторае падабенства да хрысьціянскай навукі можна знайсьці і ў дактрыне прыхільнікаў містычнага тлумачэньня «Таро», якія лічаць, што калісьці чалавецтва перажыло вялікую страту, і ўсе людзі сумуюць па гэтым страчаным скарбе. Адчуваньне гэтай страты можна пераадолець толькі пры дапамозе надпрыродных сілаў.

Нягледзячы на некаторыя падабенствы, сістэма «Таро» зьяўляецца цалкам непрымальнаю для хрысьціяніна. Яна заснаваная на містыцызме, акультызме й магіі. У сістэме «Таро» няма месца для асабістых адносінаў чалавека з Богам – сьветам кіруюць бязьлікія сілы, дзеяньні якіх патрэбна прадказаць і зьмяніць. Пра грахоўнасьць самаго чалавека, патрэбу адкупленьня ў Хрысьце «майстры »Таро« нават і ня ўзгадваюць. Сістэма »Таро« зьяўляецца гнастычнаю і эзатэрычнаю, гэта значыць даступнаю толькі для невялікай колькасьці »пасьвячаных«. Гэта супярэчыць хрысьціянскай навуцы пра Хрыста, Які памёр для збаўленьня ўсіх людзей, і Добрай Вестцы, якая скіраваная да кожнага чалавека. Варта падкрэсьліць, што для хрысьціяніна непрымальная любая форма варажбы і прадказаньня будучыні (ня толькі »Таро«, але і гараскопы, соньнікі і інш.), бо яны зьяўляюцца праяваю нявер’я чалавека ў Божую любоў і провід. Варта задумацца, калі чалавек хоча атрымаць адказ з дапамогаю картаў »Таро«: хто альбо што яму адказвае? Да каго скіраваныя пытаньні і ў чым крыніца таямнічай »сілы« картаў? Некаторыя інструкцыі »псіхасьпецыялістаў« ад »Таро« раяць, каб той, хто зьвяртаецца з пытаньнем, падчас тасаваньня картаў вызваліў сваю сьвядомасьць, каб лепш адчуваць уплыў звышнатуральных сілаў. На жаль, часта гэта могуць быць сілы дэманічнага характару, і чалавек, зьвяртаючыся да »майстроў «Таро» для вырашэньня сваіх жыцьцёвых праблем, трапляе пад уплыў злых духаў.

а. Андрэй Крот (STM)

Шлях да Бога

Школа малітвы


***З пачаткам новагу году ў Берасьці аднавіліся сустрэчы жанчынаў, што аб’ядналіся ў рух Маці ў малітве. Каардынатар гэтага руху ў Берасьцейскім рыма-каталіцкім дэканаце ксёндз Эдуард Мігай зьвярнуўся да харызматычнай супольнасьці Маран-ата, што існуе ў грэка-каталіцкай парафіі сьвятых братоў-апосталаў Пятра і Андрэя ў Берасьці, з просьбаю распрацаваць і правесьці на працягу гэтага году 9 малітоўных сустрэчаў з жанчынамі-малітоўніцамі на тэму Асабістая і хадайніцкая малітва. План працы на ўвесь год назвалі Школа малітвы.***

Мяркуецца, што ўдзельніцы руху за год прачытаюць усю Біблію, а на сваіх агульных сустрэчах на прыкладзе біблейскіх герояў (патрыярхаў, прарокаў, цароў, суддзяў, псальматворцаў, апосталаў) змогуць прасачыць, як разам з грэхападзеньнем чалавека і назапашваньнем досьведу граху зьмяняецца малітва, яе спосаб і зьмест; як самыя розныя людзі атрымоўваюць адказы на свае малітвы і калі бывае так, што Бог маўчыць. Даведаюцца, калі малітва ня мае прамога адказу і парушаецца магчымасьць зносінаў з Богам, а таксама што прадпрымаюць абодва бакі – Бог і чалавек, каб аднавіць сувязь паміж сабою.

Першая сёлетняя сустрэча берасьцейскіх удзельніцаў руху Маці ў малітве прайшла 17 лютага ў касьцёле Найсьвяцейшай Багародзіцы на Кіеўцы. Усе лавы ў касьцёле былі занятыя. Амаль траціну прысутных склалі верніцы з грэка-каталіцкай парафіі сьв. братоў-апосталаў Пятра і Андрэя (большасьць з іх належаць да супольнасьці Маран-ата). Варта адзначыць, што сярод прысутных на сустрэчы былі таксама і мужчыны. Гэта сьведчыць аб разьвіцьці гэтага руху ў кірунку, пра які гаварыў на адной з першых сустрэчаў а. Ігар Кандрацьеў: Узначальваць малітву за сям’ю і дзяцей павінен бацька).


Гэтыя, у цэлым ужо трэцція па ліку міні-рэкалекцыі для маці на тэму Асабістая і хадайніцкая малітва, праходзілі на працягу 6 гадзінаў. Праграма была максімальна насычаная: былі малітвы, якія чаргаваліся з двума выкладамі і працай у групах, гутаркі за сталом (салодкім, але з увагай на Вялікі пост), падвядзеньне вынікаў працы і сьв. Імша, якую адпраўлялі 4 сьвятары: рыма-каталіцкія душпастыры кс.Эдуард Мігай з Маларыты, вікарны сьвятар кс. Віталь Мясьнікевіч з берасьцейскай парафіі на Кіеўцы, а. Уладзімір Буклярэвіч з ордэну палацінаў з Бярозы і душпастыр грэка-каталікоў а. Ігар Кандрацьеў.

Нядзельнае спатканьне 17 лютага было прысьвечана разгляду жыцьця старазапаветных патрыярхаў, пачынальна з Адама. У пяці сфармаваных групах чыталіся і разьбіраліся разьдзелы з Кнігі Быцьця і Кнігі Ёва. Адам і яго сыны, Каін і Абель, Энох і Ной, Абрагам і Язэп, Якуб і Ёў – ці заўсёды яны былі адданыя, праведныя і пакорлівыя свайму Госпаду? Чаму вучыць нас досьвед іх малітвы? Што такое наогул малітва? Цяжкая праца або бестурботная радасьць? Сталае

выпрошваньне або падзяка? Нязгода, скаргі, барацьба з Богам (і сабою) або хвала і поўнае глыбокай пашаны ўслаўленьне Стваральніка? І тое, і другое; напераменку, а часам – адначасова.

Але, галоўнае, што, спадзяемся, зразумеў кожны і панёс з сабою – гэта тое, што Бог верны свайму абяцаньню, свайму імені Бог-Збаўца, Бог-Пераможца. І ня Ён разрывае зносіны з чалавекам, якога стварыў уласна для таго, каб ён жыў у заўсёднай еднасьці з сваім Айцом.

Выклад на шырокую тэму Хадайніцкая малітва працягнула (бо пачатак быў пакладзены яшчэ на папярэдняй сустрэчы ў сьнежні 2007 году) жонка і маці траіх дзяцей, сябра супольнасьці Маран-ата спн. Любоў Круглінская. Стройна, выразна, жыва і проста выклала яна некаторыя асьпекты навукі хадайніцкай малітвы і падзялілася асабістым досьведам маці-хрысьціянкі. Але 45 хвілінаў усё ж замала, каб раскрыць і закончыць тэму, і таму наперадзе яе працяг – 30 сакавіка 2008 году на чарговым спатканьні руху Маці ў малітве, якое адбудзецца ў Маларыце. Адначасова на гэтай сустрэчы будзе разглядацца жыцьцё і малітва прарокаў: Майсея, Гедэона, Самсона, Самуіла ды Ісуса Навіна. А яшчэ праз месяц – 27 красавіка – наступная сустрэча ў Берасьці. Яна будзе прысьвечана жыцьцю прарокаў Ісаі, Ераміі, Езэкіілю, Даніілу і Ёілю.

**Вольга Граськова**
*г.Берасьце*

Шлях да Бога

## Зварот супраць рэкламы акультызму і гвалту над асобай

***Біскупы пратэстанцкіх супольнасьцяў Беларусі заклікаюць улады спыніць рэкламу акультызму ў СМІ і адмовіцца ад прымусовага запісу моладзі ў БРСМ.***

15 студзеня 2008 году кіраўнікі пратэстанцкіх канфесіяў Беларусі падпісалі зварот да кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Г.Невыгласа, які накіравалі таксама ўпаўнаважанаму па справах рэлігіі і нацыянальнасьцяў, Міністру інфармацыі, галоўнаму рэдактару газеты «Советская Белоруссия» і старшыні Белтэлерадыёкампаніі з заклікам спыніць рэкламу ў прэсе і на тэлебачаньні разнастайных акультных практыкаў і вераваньняў.

«Сёньня стала модным карыстацца паслугамі майстроў таро, сьпецыялістаў парапсіхалогіі, экстрасэнсаў, празорцаў, знахароў. Кадаваньне ад алкагалізму і курэньня тытуню падаецца амаль як панацэя ад гэтых залежнасьцяў. Спірытызмам займаюцца нават у школах. І ў авангардзе ўсяго гэтага выступае тэлебачаньне і прэса, прыносячы гэтую духоўную »атруту« ў кожны дом, кожную сям'ю!»– гаворыцца ў заяве. «Мы перакананыя, што нездаровая цікавасьць да іншага сьвету, папушчальніцтва і нават садзейнічаньне распаўсюджваньню вядзьмарства сярод насельніцтва – гэта трывожны знак духоўнае дэградацыі нашага грамадзтва, страта ім традыцыйных хрысьціянскіх каштоўнасьцяў. Верым, што адзіным рашэньнем гэтае праблемы зьяўляецца вяртаньне ўсяго нашага народа да Бога, да Яго вечных, выпрабаваных часам ісьцінаў, вяртаньне да хрысьціянскай маралі. Заклікаем спыніць любую рэкламу акультнага характару».

Адначасова быў накіраваны зварот да кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь і Міністра адукацыі, у якім біскупы пратэстанцкіх супольнасьцяў краіны выказалі сваю заклапочанасьць тым, што «адміністрацыя навучальных установаў прымушае навучэнцаў у абавязковым парадку ўступаць у грамадзкія арганізацыі, у прыватнасьці ў Беларускую рэспубліканскую піянерскую арганізацыю (БРПА) і Беларускі рэспубліканскі саюз моладзі (БРСМ)».

«Ні мы, ні нашыя дзеці ня хочам мець нічога агульнага з арганізацыямі – духоўнымі спадкаемцамі ранейшых камуністычных атэістычных саюзаў. Мы лічым, што прымусовы запіс у падобныя арганізацыі парушае прынцыпы добраахвотнасьці, раўнапраўя і дэманапалізацыі»,– гаворыцца ў заяве.

**Паводле матэрыялаў інфармацыйнага цэнтру «Евангельская Беларусь»**

Гісторыя Царквы

## Віленскі абраз Ісуса Хрыста Чалавекалюбцы




У візантыйскай літургічнай традыцыі знаходзіцца шмат тэкстаў, якія паказваюць нам Міласэрнага Хрыста Чалавекалюбца. У апошнія дзесяцігоддзі евангельская праўда пра Божую Міласэрнасьць атрымала больш глыбокае разуменьне ў кантэксьце зьяўленьняў Ісуса Міласэрнага сьвятой манахіні Фаўстыне (Кавальскай) у блізкім нашым сэрцам горадзе Вільні. Сам Ісус Хрыстос загадаў ёй напісаць абраз і зьмясьціць на ім словы малітвы:

***«Ісус, давяраю Табе!»***

Першы абраз Ісуса Міласэрнага быў напісаны ў Вільні ў 1934 годзе Яўгенам Казіміроўскім па блаславеньні духаўніка манахіні Фаўстыны – а.Міхала Сапоцькі, які нарадзіўся ў Беларусі, каля Ашмянаў, у 1888 годзе.

4 красавіка 1937 году а. Сапоцька зьмясьціў гэты абраз у касьцёле сьв. Міхала ў Вільні. У 1948 годзе, калі камуністычныя ўлады зачынілі касьцёл сьв. Міхала, а. Юзаф Грасевіч забраў яго ў Беларусь і зьмясьціў у парафіяльным касьцёле ў Новай Рудзе каля Горадні, дзе ён захоўваўся амаль сорак гадоў. Пазьней яго перавезьлі ў Вільню і, дзякуючы руплівасьці віленскіх душпастыраў Аляксандра Кашкевіча і Тадэвуша Кандрусевіча, зьмясьцілі ў касьцёле Сьвятога Духа. Такім чынам Беларусь і адважныя беларускія сьвятары захавалі сьвятую ікону для духовага дабра вернікаў.

**Гл. таксама: «Пастырскае Слова Апостальскага Візітатара на сьвята Пасхі Хрыстовай 2008 году»**

Гісторыя Царквы

**Вольга Іванова** *(Менск)*

# Макрына Мечыслаўская: апаэтызаваныя міфы эпохі

***У газеце «Шлях да Хрыста» за 2002, №№ 11-14 быў апублікаваны артыкул пад назвай «Загадка Макрыны Мечыслаўскай», заснаваны на біяграфічным нарысе ў выданьні А. Карлюкевіча «І векавечны толькі край» (2002). Артыкул і першакрыніца распавядаюць пра Макрыну Мечыслаўскую як пра адну з выдатных постацяў беларускай Уніяцкай Царквы і беларускай гісторыі, залічваючы яе ці не да шэрагу сьвятых.***



Макрына Мечыслаўская… Асоба неадназначная… Хто яна? Аферыстка, сьвятая ці проста хворая? Менавіта з гэтых пытаньняў пачынаецца кожная размова, кожная публікацыя пра яе. Мечыслаўская – гэта дзьве постаці: першая – міфічная, створаная ёй самой і апаэтызаваная ў творах польскіх паэтаў, драматургаў і мастакоў, другая – рэканструяваная на падставе гістарычных крыніц дасьледчыкамі Я.Урбанам, А.Майкоўскім, А.Васкоўскім, Ф.Ендржэеўскім і інш., што выкрываюць непраўдападобнасьць аповядаў Макрыны, як перасьледаванай манахіні-базыльянкі.

Па версіі самой Мечыслаўскай, нарадзілася яна 6 студзеня 1784 г. у Стаклішках Троцкага ваяводзтва, у шляхецкай сям'і Юзафа і Ганны Мечыслаўскіх. У 1808 г. нібыта ўступіла ў закон базыльянак у манастыры ў Белай на Падляшшы, потым пераехала ў Менск, дзе, паводле яе сьцьверджаньняў, зьяўлялася ігуменьняй манастыра. За адмову прыняць скасаваньне Уніі нібыта зьведала ціск і рэпрэсіі з боку япіскапа Ёсіфа Сямашкі. Апісаньне тых жорсткіх перасьледаў, апублікаванае ў Познані, выклікала ў свой час сенсацыю ў Еўропе. 10 кастрычніка 1845 г. з дапамогай кс. Аляксандра Елавіцкага, зьверхніка супольнасьці Ўваскрасеньня Гасподняга, М.Мечыслаўская прыязджае ў Парыж, дзе ёй апякуецца таксама і князь Адам Чартарыйскі, пра яе пішуць ня толькі польскамоўныя газеты «Trzeci Maj», «Dziecnik Narodowy», але і французская прэса: «L'Univers», «L'ami de la Religion», бельгійская «Journall de Bruxelles» і нават ангельская; адусюль сыплюцца пратэсты супраць рэлігійных перасьледаў у Расеі, якія, трэба адзначыць, сапраўды мелі месца ў той час, пра што сьведчаць сёньня шматлікія архіўныя дакументы. Хутка было апублікавана другое дазнаньне Макрыны, у якім утрымлівалася значна больш рэзкіх ацэнак злачынстваў Ёсіфа Сямашкі, яшчэ больш апісаньняў таго, як манахіняў, што не захацелі перайсьці ў праваслаўе, кармілі толькі салёнымі селядцамі і не давалі вады, білі, гвалцілі, і закаваных у кайданы, гналі па марозе некалькі дзясяткаў кіламетраў і г. д. Гэты аповяд дайшоў да Рыму, куды Макрына прыязджае ў хуткім часе дзякуючы сваім апекунам і дзе папа Рыгор XIV загадвае арганізаваць дазнаньне. Зробленая медычная эксьпертыза пацьвярджае наяўнасьць пабояў…

Сярод патрыятычна настроенай польскай інтэлігенцыі Мечыслаўская стала сьвятой мучаніцай. Яе асобай захапляліся польскія грамадзка-культурныя дзеячы і творцы З.Красінскі, Я.Залескі, С.Вітвіцкі, а ў 1846 г. зьявілася нават паэма Ю.Славацкага «Размова з маткай Макрынай Мечыслаўскай», у 1900 г. – драма С.Высьпянскага «Легіён», у 1929 г. – літаратурны твор А. Васькоўскага «Макрына». Існуе таксама і легенда аб тым, што нават Адам Міцкевіч пасьля знаёмства і размовы з Макрынай Мечыслаўскай вярнуўся ў Каталіцкую Царкву. У 1852 г. Кіпрыян Норвід, дасылаючы Міхаліне Дзяконскай копію сваёй фрэскі ў царкве Сьвятой Тройцы на Гары ў Рыме, што мела назву «Найдзіўнейшая Маці Божая», пісаў: «Прыйдзе такі час, калі шматлікія рэчы, якія здаюцца глупствам, па-французску гаворачы містычныя пустаслоўі гультаёў, што зьяўляюцца важнымі для палякаў, будуць зразумелыя і ў Францыі. Тады людзі будуць ведаць, што манахіня ў далёкім Рыме, ня ведаючы пра Польшчу, упрыгожыла »Найдзіўнейшую Маці Божую«, і ведала пра тую хрысьціянскую справу больш, чым шматлікія вучоныя галовы. Найпаважанейшая Маці Макрына – асоба з вытанчаным

густам і глыбокі знаўца эстэтыкі».

Аднак былі і іншыя погляды сучасьнікаў на асобу Макрыны. Так кс. Мікашэўскі, супраціўнік кс. А.Елавіцкага, адзначаў: «Выдуманая гісторыя сястры Макрыны, базыльянкі, цярпеньні якой апісваў кс. Аляксандр Елавіцкі ў яскравых колерах перад усім каталіцкім сьветам, дазволіла айцам здабыць вялікія грошы. Пры падзеле здабытага ўзьнікла вялікая нязгода паміж сястрой і айцамі… Уяўная сястра Макрына, якая памерла ў Рыме ў 1869 г. і біяграфію якой напісаў кс. А.Елавіцкі, увогуле ніколі не існавала».

Амаль ніхто з французскіх і польскіх дасьледчыкаў XIX ст., што згадвалі пра Макрыну, не пацьвярджаў праўдзівасьць яе аповедаў, сумненьні выклікаў нават сам факт яе існаваньня. Расейскія ж публікацыі заўсёды асabliва былі скіраваныя на выкрыцьцё дадзенай асобы. У 1860 г. пісаў пра яе былі менскі губернатар Сушкоў, у 1864 – менскі праваслаўны архіяпіскап Антоні Зубко. Важнымі крыніцамі па гісторыі ліквідацыі Уніі зьяўляюцца мемуары Ёсіфа Сямашкі, выдадзеныя ў Пецярбургу ў 1883 г., успаміны полацкага япіскапа Васіля Лужынкага, апісаньні з архіву Заходнерускіх уніяцкіх мітрапалітаў 1897-1907 гг., біяграфічныя дасьледваньні Г.Кіпрыяновіча пра Сямашку і інш., у якіх няма ніводнай згадкі пра ігуменьню па імені Макрына Мечыслаўская.

Параўноўваючы факты з аповеду Мечыслаўскай і афіцыйныя дадзеныя, польскі дасьледчык а. Ян Урбан адзначае цэлы шэраг недарэчнасьцяў: скасаваны менскі манастыр Сьвятой Тройцы манахіняў-базыльянак, ігуменьняй якога, дарэчы, зьяўлялася Параскева Ляўшэцкая, а не Мечыслаўская, быў пераведзены ня ў Віцебск, а ў Мядзель. Памылілася Мечыслаўская і ў даце пераводу манастыра з Менску, называючы 1838 г.: восем базыльянак з ігуменьняй Параскевай і а. Дыянісіем Анішкевічам пасяліліся ў былым кармяліцкім кляштары ў Мядзелі перад сьвятам Дабравешчаньня ў 1834 г. У 1837 г. япіскап Сямашка з Жыровіц наведаў законьніц. Як запісана ў яго дзёньніку, ён застаўся задаволены правядзеньнем набажэнстваў, рэформа якіх адбывалася ў той час з мэтай нівеляваньня лацінскіх уплываў, а таксама станам царквы і манастыра, якія былі прыведзены ў парадак у даволі кароткі тэрмін. Пасьля Полацкага сабору 1839 г., на якім была скасавана Унія, сам манастыр быў аднесены да Менскай япархі і падпарадкоўваўся япіскапу Антонію Зубко, а вось манахіні адмовіліся ад пераходу ў праваслаўе, таму як многія паходзілі ўжо з рыма-каталіцкіх сем’яў. Тады да іх былі дасланыя чатыры праваслаўныя манахіні, а духаўнікам прызначаны сьвятар Пётр Міхалевіч. Не даючы рады схіліць манахіняў да праваслаўя, Сямашка ў 1844 г. дазволіў Параскеве Ляўшэцкай і яе сястры Дароце, а таксама Яўсевіі Рачкевіч, Мяланьні Сабалеўскай, Макрыне Ласкатоўскай, Антаніне Лясьнеўскай выехаць з манастыра да сваіх сем’яў. Не давалі згоду на пераход у праваслаўе і манахіні іншых базыльянскіх манастыроў у Віцебску, Полацку, Воршы, Горадні.

Пасьля першай публікацыі пра Макрыну Мечыслаўскую, Ёсіф Сямашка падрыхтаваў даклад у Сьвяты Сінод, дзе падрабязна апісаў стан і колькасьць базыльянскіх манастыроў у Літоўскай япархіі: з яго вынікае, што ніводная з пералічаных Мечыслаўскай асобаў базыльянак і духаўнікоў у рэальнасьці не існавала. Мечыслаўская распавядала пра тое, што базыльяне высылаліся ў Сібір ці ўтрымліваліся ў праваслаўных манастырах, аднак у адпаведнасці з афіцыйнай справаздачай Сямашкі базыльянак было не 245, а 55, манахаў-базыльянаў адпаведна не 346, а 265, і ніводзін з іх ня быў высланы (што, усё ж такі, не адпавядала рэчаіснасьці). Акрамя таго, Сямашка сам ніколі ня быў духаўнікам ні ў Коўна, ні ў якімсьці іншым манастыры, як аб тым даводзіла Макрына. Да справаздачы дадаваліся сьведчаньні адной з манахіняў Менскага манастыра базыльянак Антаніны Лясьнеўскай, што жыла на той час ў сваіх родных. Яна ў сваім аповедзе пацьвярджала афіцыйныя дадзеныя, акрэсьліла асобу Сямашкі вельмі станоўча *(да гэтай ацэнкі трэба ставіцца вельмі асьцярожна, ведаючы з іншых сьведчаньняў, як выбіваліся падобныя рэчы – Рэд.)*, але распавяла пра жорсткасьць сьвятара а. П.Міхалевіча да манахіняў, які за гэта быў пакараны і высланы з Мядзеля.

Што да сапраўднай біяграфіі Макрыны, то існуе меркаваньне, што паходзіла яна з жыдоўскай сям’і, а пры пострыгу ў Віленскіх марыявітак атрымала прозьвішча Мечыслаўская, потым жыла некалькі гадоў у кляштары бенядыктынак у Менску. Пакінуўшы кляштар, працавала пакаёўкай у Чацьвярцінскіх, пакуль не пабралася шлюбам з расейскім капітанам у адстаўцы Вінчам. Па сьмерці мужа, прыблізна каля 1830 г., пачала гуляць ролю абражанай манахіні-базыльянкі і падарожнічаць па краі. Каля 1840 г. была арыштавана і адаслана па сьледзтве на сталы побыт у Любчу. Але хутка выйшла з-пад нагляду паліцыі і зноў пасялілася ў кляштары, на гэты раз у бернардынак у Вільні. Уласна там яна і даведалася пра трагічную гісторыю скасавання Уніі ад сёстраў-базыльянак з Менску й Мядзеля, якія ў той час знаходзіліся там. Зьяўленьне Мечыслаўскай у Рыме з яе аповедам пра перасьлед уніятаў у Расеі супала з візітам цара Мікалая І да папы Рыгора XVI у сьнежні 1845, але яе сьведчаньні не былі выкарыстаныя ў абмеркаваньні пытаньняў.

Ужо на пачатку 1846 г. Мечыслаўская страціла давер Рыму, аднак у лістападзе 1848 г. новы папа Пій IX зноў прыняў яе і згадзіўся на адкрыцьцё манастыра базыльянак, дзе Макрына стала ігуменьняй. Увёўшы там вельмі жорсткія правілы, яна неўзабаве была пазбаўлена кіраўніцтва. У гэты час Макрына актыўна ўдзельнічала ў грамадзка-палітычнай дзейнасьці: нарадах, арганізацыі Польскага легіёну і інш. Пасьля яе сьмерці ў 1869 г. базыльянкі былі пераведзены з Рыму ў Кастэль Гандольфа.

Айцец-езуіт Ян Урбан у эпіграф сваёй працы пра Макрыну Мечыслаўскую вынес словы папы Інакенція ІІІ: «Нельга хаваць праўду пад пабожнасьцю». Ён адзначае: «Адкрыцьцё кожнай новай праўды прыносіць людзям задавальненьне, бо чалавечы дух створаны для праўды. Але ёсьць праўды, адкрыцьцё якіх бурыць пэўныя пераканаьні, з якімі зжыліся, якія дагэтуль лічыліся праўдай, якія былі апаэтызаваны, якія ідуць насуперак якомусьці рэлігійнаму альбо палітычнаму паўдагмату… Патрабуецца тады немалая доля добрай волі, адвагі, сумленнасьці, каб, парушыўшы пячатку маўчаньня,

пацьвердзіць сабе – magis amica veritas! (перадусім праўда). Падобны выпадак здарыўся з Макрынай Мечыслаўскай. Ужо трэцяе пакаленьне корміцца яе апавяданьнямі аб перажытых за веру цярпеньнях… Яна стала сымбалем усяго таго, што каталіцкая і ўніяцкая Польшча й Русь вынесла за сваю вернасьць Царкве і мінуламу…»

М.Мечыслаўская стала постацьцю сваёй эпохі, адыграла сваю грамадзкую ролю, зьяднаўшы палякаў вакол патрыятычнай ідэі, натхніўшы творцаў, прыцягнуўшы цікавасьць да лёсу зьнішчанай расейскімі ўладамі Ўніяцкай Царквы. Але яна не пасеяла добрых зерняў духоўнасьці, не прынесла заўважных здабыткаў. «Па іхніх пладах пазнаеце іх. Ці ж зьбіраюць з цярноўніку вінаград, альбо з дзядоўніку смоквы?» (Мц 7, 16).

**Літаратура:**
**1.** Polski Siownik Biograficzny. T. XX/1. Maria Jyzefa-Mathy Ignacy. 1975. S. 739-741.
**2.** Ks. Jan Urban T.J. Makryna Mieczysiawska w њwietle prawdy. Krakyw. 1923.



## Сацыяльнае служэньне ў парафіі Праведнага Язэпа

Гэты літургічны год мы распачалі не зусім звычайна – Сацыяльная служба парафіі Праведнага Язэпа ў Менску арганізавала парафіяльны выезд за горад. Імпрэза адбылася ў жывапісным кутку паблізу Ракава, на хутары сп. Алеся Лася, якому шчыра дзякуем і жадаем Божага блаславеньня.

Спрыяльнае надвор’е, цікавая забаўляльна-інтэграцыйная праграма, якую зладзілі Васіль і Яўгенія Грыні з дапамогай сяброў, адкрытасьць нашых вернікаў на патрэбы адзін аднаго, супольная трапеза на сьвежым паветры, малітва і праслаўленьне Госпада, чытаньне Евангельля і разважаньні айца Андрэя Абламейкі, нашага параха – усё гэта распаліла ў нас Дух, каб распачаць год з надзеяй на тое, «што Той, Які распачаў у (нас) добрую справу, давядзе аж да дня Ісуса Хрыста» (пар. Флп 1, 6).

Перадкалядны час мы правялі актыўна, ў чаканьні Раства Хрыстовага мы ня толькі маліліся за тых, хто ў патрэбе, але яшчэ і добрымі ўчынкамі хацелі перадказаць Божую любоў, якая прыходзіць у сьвет з Дзіцяткам Ісусам. За некалькі тыдняў нашыя вернікі сабралі сродкі, на якія мы змаглі набыць дзіцячыя хрысьціянскія кніжкі ў Біблійным таварыстве, а таксама цукеркі, мандарынкі, бенгальскія агеньчыкі, цацкі і інш. на падарункі для дзетак, як сваіх, парафіяльных, так і тых, якія ня маюць сям’і і не атрымаюць ад бацькоў падарунка. Вялікі дзякуй спадарыні Алёне Ўсошынай – жонцы нашага маладога сьвятара, якая, будучы на апошнім месяцы цяжарнасьці, займалася выбарам цукерак – дзе іх купіць, а яшчэ і як прывезьці… Ведаем, што ты нарадзіла ўжо сына, таму – віншуем!!! І молімся за вас! Такім чынам, мы падрыхтавалі 100 падарункаў. 65 падарункаў раздалі падчас Каляднага дзіцячага сьвята нашым дзеткам, 15 падарункаў адвезьлі ў Сацыяльны прытулак Фрунзенскага раёну г.Менску. У сувязі з рамонтам іхняга будынку, на жаль, прыйшлося абыйсьціся без усялякай праграмы для дзетак, як звычайна мы рабілі, але дзеці былі вельмі задаволены, і дырэктар гэтага Цэнтру падзякавала ўсім, хто ахвяраваў сродкі на падарункі дзецям.

З рэштай падарункаў (20) і забаўляльнай праграмай вернікі нашай парафіі 19 студзеня наведалі яшчэ адзін Сацыяльны прытулак у Партызанскім раёне Менску. Дзяўчаты-шасьцікласьніцы пад кіраўніцтвам Яўгеніі Ліс паказалі дзецям традыцыйную беларускую батлейку, мы правялі гульні, падаравалі ў бібліятэку іхняга цэнтру дзіцячыя хрысьціянскія кнігі: Біблію, «365 молитв для детей», «Хрысьціянскую азбуку», размалёўкі і інш. Дзякуем Госпаду за наш хор, за нашых сёстраў і братоў, якія зьбіраліся перад Раством Хрыстовым на рэпетыцыі і развучвалі калядныя песьні, упрыгожылі парафіяльнае сьвята і таксама паехалі, каб пасьпяваць для дзетак гэтага прытулку калядкі, славячы Госпада нашага Ісуса Хрыста і даруючы трохі радасьці і весялосьці гэтым дзеткам.

«Дык вось, пакуль маем час, будзем рабіць дабро ўсім» (Гал 6, 10).

Сьвятлана Абламейка<br>г.Менск

**На фота:** *Менскія грэка-каталікі ў гасьцях у дзяцей з сацыяльнага прытулку.*



## Гарадзенскім экуменічным сустрэчам – год

***Вось ужо год у Горадні, у рыма-каталіцкай капліцы па вул. Рэпіна, праходзяць супольныя экуменічныя малітвы хрысьціянаў розных канфесіяў.***



Я даведаўся пра іх зусім выпадкова ад свайго сябра і адразу адчуў патрэбу схадзіць туды ды пабачыць усё на ўласныя вочы. Прызнацца, я быў прыемна ўражаны ад гэтых экуменічных сустрэчаў і пачаў штораз наведваць іх.

Адбываюцца яны рэгулярна, у першы аўторак кожнага месяца, а 20-й гадз. Малітву звычайна распачынаюць нашы браты пратэстанты. Спачатку прамаўляе пастар, а потым вернікі пачынаюць сьпяваць песьні. Перш гэта было для мяне неяк нязвыкла, але кожная канфесія мае права ўсхваляць Госпада так, як хоча, і ня важна, у якой форме будзе гэтая малітва, галоўнае, каб яна ішла ад чыстага ды шчырага сэрца.

Вельмі падабаецца таксама тое, што ўзяць слова й памаліцца можа кожны, хто прыйдзе на экуменічную сустрэчу, не зважаючы на тое, ці зьяўляецца ён сьвятаром альбо пастарам, ці простым рабочым-зваршчыкам з заводу карданных валаў. Найбольш ураждвае заканчэньне супольнай малітвы: усе вернікі сьпяваюць беларускі рэлігійны гімн «Магутны Божа», а потым уніяцкі сьвятар распачынае малітву «Ойча наш» на беларускай мове, падчас якой усе ўдзельнікі экуменічнай сустрэчы бяруцца за рукі, тым самым выказваючы знак брацкай любові і салідарнасьці да хрысьціянаў іншых канфесіяў, знак адзінства ды роўнасьці ўсіх вызнаўцаў Хрыста перад абліччам Госпада.

Пасьля такой шчырай малітвы заўсёды адчуваеш духоўную ўзьнёсласьць, усяго цябе перапаўняе Божая радасьць, і хочацца ісьці ды несьці гэтае сьвятло ў душы іншых людзей, сеяць паміж імі міласьць і любоў да Бога.

**Ян Габіс**
*г.Горадня*

**На фота:** *Горадня, 01.01.2008. Падчас экуменічнага спатканьня на Новы год.*

Катэдральны пляц

## Ці магчымы развод у Каталіцкай Царкве?

***Пытаньне для мяне важнае. Жыцьцё склалася так, што з мужам я разьвялася. Мы бралі шлюб у Каталіцкай Царкве. Пасьля разводу мінула 6 гадоў. Былы муж ажаніўся ў другі раз. Пытаньне: ці магчымы развод у Каталіцкай Царкве?***

**Сьвятлана** з mail.ru

*Адказвае* **а. Андрэй Крот (STM):**

Разводаў у Каталіцкай Царкве не існуе. Шлюб зьяўляецца адной з сямі сьв. Тайнаў, г. зн. знакам зыходжаньня ласкі Божай на чалавека. Ніхто, нават царкоўныя ярархі ня могуць зьняць з чалавека гэтую ласку, і таму шлюб зьяўляецца неразрыўным і непаўторным.

Аднак у асобных выпадках у Каталіцкай Царкве можа мець месца працэдура прызнаньня несапраўднасьці шлюбу (якую часта памылкова называюць разводам), калі кампетэнтныя царкоўныя ўлады пасьля грунтоўнага вывучэньня справы сьцьвярджаюць, што пры самым заключэньні шлюбу існавалі ўмовы, якія пазбавілі сужонкаў магчымасьці сьвядома і дабравольна прыняць рашэньне аб сумесным жыцьці, нараджэньні дзяцей і г. д. Напрыклад, калі адна з асобаў была прымушаная, фізічна ці маральна, для заключэньня шлюбу. Такіх прычынаў існуе цэлы шэраг. Як паказвае практыка, найчасьцей у нашых беларускіх умовах паўтараецца прычына няведаньня сутнасьці навукі Каталіцкай Царквы пра

шлюб. Паколькі Вы задаяце пытаньне пра неразрыўнасьць шлюбу, то, думаю, такая прычына, магчыма, існуе і ў Вашым выпадку.

Для атрыманьня больш дакладнай інфармацыі адносна Вашай сітуацыі Вы мусіце зьвярнуцца да сьвятара ў сваю або найбліжэйшую каталіцкую парафію. Думаю, сьвятар Вам падкажа, што рабіць і куды зьвярнуцца, каб мог быць распачаты працэс аб прызнаньні несапраўднасьці Вашага сужэнства.

Прафіяльнае жыцьцё

## Грэка-каталікі ўшанавалі памяць К.Каліноўскага

***Сёлета, 2 лютага, адзначалася 170-ая гадавіна з дня нараджэньня вялікага сына беларускага народу, кіраўніка Вызвольнага паўстаньня 1863 г. Кастуся Каліноўскага. З нагоды гэтай памятнай даты гарадзенскія грэка-каталікі зрабілі 10 лютага невялікую пілігрымку ў мястэчка Сьвіслач, у родныя мясьціны К.Каліноўскага.***

У самой Сьвіслачы Канстанцін Каліноўскі вучыўся ў гімназіі, таксама на сьвіслацкіх могілках пахаваны ягоны брат Віктар, які, хоць памёр яшчэ перад пачаткам паўстаньня, спрычыніўся да фармаваньня поглядаў свайго роднага брата.

Кастусь Каліноўскі быў прыхільнікам адраджэньня Ўніяцкай Царквы, гвалтоўна зьнішчанай у 1839 годзе расейскімі ўладамі. Тэме адраджэньня Уніі ён прысьвяціў шосты нумар сваёй «Мужыцкай праўды», у якой палымяна заклікаў суайчыньнікаў: «Калі Сын Боскі, прыйшоўшы на гэты сьвет, устанавіў праўдзівую веру і за гэту веру цярпеў крыжовыя мукі, то не для таго, каб якіясь там цары маскоўскія… перамянялі закон Божы, а мы, на загад гэтых цароў выракаліся веры сваіх дзядоў і прадзедаў і не хвалілі Бога, а радню царскую,– але ж для таго, дзецюкі, Бог Найвышэйшы цярпеў за нас, каб закон Яго быў ужо вечны, ніхто ня сьмеў яго перамяняць, а мы з усёй моцы трымаліся яго».

Літургію за супакой слугі Божага Вікенція Канстанціна Каліноўскага, ягоных паплечнікаў і ўсіх тых, хто загінуў у змаганьні за волю Бацькаўшчыны, адслужыў місійны душпастыр Гарадзенскай вобласьці а. Андрэй Крот. На набажэнстве ў рыма-каталіцкай капліцы на сьвіслацкіх могілках прысутнічалі, акрамя пілігрымаў з Горадні, грэка-каталікі са Сьвіслачы.

Пасьля Боскай Літургіі ўсе накіраваліся ў вёску Якушоўка, дзе некалі знаходзілася сядзіба Каліноўскіх. Тут, побач з крыжам, усталяваным некалькі гадоў таму, была асьвячаная новая каплічка з фігуркай Багародзіцы, зробленая мясцовымі грамадзкімі актывістамі.

Прафіяльнае жыцьцё

## «Сьвятое і страшнае Імя Ягонае» (Пс 110, 9)

***На пачатку 2008 году намаганьнямі супольнасьці «Маран-ата» пры грэка-каталіцкай парафіі ў Берасьці падрыхтавана й выпушчана адмысловая брашура «Имена Бога». Гэтую невялікую кніжачку ў 14 старонак фармату А5 можна назваць дапаможнікам для малітвы (асабістай або супольнай), дапаможнікам для медытацыі або малітоўнага разважаньня.***

Зразумела, што тут, на зямлі, мы толькі ўгадваем, нібы скрозь цьмянае шкло, спрабуем угледзецца ў сьвятое Аблічча нашага Творцы. Але наўрад ці Бог захоча ўзбудзіць у Сваім стварэньні падобнае жаданьне без намеру яго задаволіць (вядома, зважаючы на нашую здольнасьць успрымаць інфармацыю). Той, Які задавальняе ўсякую сапраўдную патрэбу чалавека, ці не адорыць Сваімі шчадротамі шчырае жаданьне Свайго стварэньня – прагненьне глыбокіх і блізкіх зносінаў з Ім?

Знакавае імя Бога Ізраіля – Ягвэ – усяго толькі адно з Ягоных імёнаў, што сустракаем у Бібліі часьцей за іншыя (6823 разы). Менавіта з гэтым Імем Госпад адкрыўся Майсею (Вых 3, 13-14). Яго прынята тлумачыць як «Існы» («Сутны»), «Той, Хто ёсьць», «Той, Хто прымушае быць» або «Той, Хто зьяўляецца прычынаю быцьця». Юдэйская традыцыя сьцьвярджае, што гэтым Боскім Імем быў уладкаваны ўвесь сусьвет і што прамаўляць яго нельга, бо ўсё створанае Богам здрыганецца пры гэтым гуку. У старажытнасьці габрэі, пазьбягаючы прамаўляць гэтае таемнае Імя, замянялі яго на Аданай («мой Гасподзь», «мой Уладыка») або Элагім («Усемагутны») і прыпісвалі яму цудадзейную сілу. Запісвалі яго 4 зычнымі літарамі: уставіць тэтраграму!!!!! (у навуцы гэтыя чатыры літары прынята называць тэтраграмай).

У Бібліі тэтраграма часта суправаджаецца іншым імем: Ягвэ-Шалом («Гасподзь супакою»), Ягвэ-Ірэ («Госпад прадбачыць») і інш. Гэтыя імёны выяўляюць і саму сутнасьць Бога, і розныя формы яе праяваў. Госпад адкрываў іх людзям у пэўных сітуацыях, што таксама адлюстроўвалася ў перадачы Яго імя.

Бясконцая і неспасьцігальная да канца Асоба Бога ня можа быць ахарактарызаваная альбо названая канчатковым лікам імёнаў-якасьцяў, і таму ўсім, хто імкнецца заглыбіцца ў таямніцу сутнасьці Бога, у малітве могуць раскрывацца ўсё новыя і новыя Яго імёны. У брашуры «Имена Бога» сабраныя больш за 120 імёнаў-сутнасьцяў Бога ў Тройцы адзінага: Айца, і Сына, і Сьвятога Духа, якія Ён Сам адкрывае Сваім абраньнікам, усім, хто чытае Яго Слова. Тэкст падаецца ў форме табліцы, якая мае 4 калонкі:

– імя Бога на мове арыгіналу (іўрыт, а таксама па-грэцку);
– яго трансьлітарацыя кірыліцай;
– сэнсавае значэньне або пераклад;
– спасылкі на кнігі Бібліі, дзе сустракаецца.

Гэтую брашуру пра Божыя імёны кожны можа замовіць у супольнасьці «Маран-ата»:

***224014 г.Берасьце, вул.Дворнікава, 63,***
***кантактны тэлефон: +375-29-7923812.***

Выдаўцы палічылі неабходным і вартым, каб таксама і вернікі, што будуць чытаць брашуру «Имена Бога», маглі ўнесьці ў яе свае ўдакладненьні або дадатковыя імёны Бога, якія сустрэнуцца ім пры чытаньні Сьвятога Пісьма. Таму праз нейкі час плануецца зрабіць другое выданьне гэтай брашуры – папраўленае і дапоўненае. Свае заўвагі можна паведаміць па тэлефоне або пісьмова (абавязкова падавайце спасылкі).

І яшчэ адна парада ад выдаўцоў кожнаму верніку: пачуць, зразумець, спазнаць якое-небудзь імя Бога зможам тады, калі яно ўвойдзе праз моц Духа Сьвятога ў сэрца і зьдзейсьніць у ім перамену, падобную яго «гучаньню». Зразумець, што значыць Бог Міласэрны, можна будзе тады, калі захочам і будзем паступаць міласэрна; зразумеем, што такое Ісьціна, калі ня зможам хлусіць... Бо на нас будзе напісана гэтае імя!

Заглыбляючыся (хрысьцячыся) у зносіны з Айцом праз спазнаньне кожнага імя-сутнасьці Бога, мы маем шанец наблізіць сваё падабенства да Дасканалага Арыгіналу. Таму для ўсіх, хто прагне зносінаў з Богам уласна такога ўзроўню, гучыць заклік Ісуса: «Хто прагне, ідзі да Мяне і пі!»(Ян 7, 37).

**Вольга Граськова г.Берасьце**

Голас сэрца

## Рубрыка: Голас сэрца

**Малітва**

А я не баюся ні зьдзекаў, ні кпінаў,
І крыж не пастаўлю на мове айчыннай.
Я буду маліцца – далоні да хрусту –
На матчынай мове сьвятой, беларускай.
Малюся, каб веру ня страцілі дзеці,
Каб з Богам жылі на зялёнай планеце,
Каб розуму сьветлая Боская сіла
Страшны чарнобыльскі грэх замаліла.
З надзеяй прашу я, каб нашы салдаты
Ніколі ня ведалі войнаў праклятых;
Прашу паратунку, каб з рулі вінтоўкі
Ня кулі ляцелі – глядзелі рамонкі.
Прашу Цябе, Божа, каб выпала шчасьце
Па жыце вясковым прайсьці і ўпасьці,
Пяшчотнай рукой каласоў дакранацца
І з роднай зямлёю навекі абняцца.

**Сімвалы каханьня**

Сьвятыя крыжы ў аблоках лунаюць,
Гадзіньнік касьцёльны жыцьцё абуджае;
На вуліцах сонных лятуць спазаранку
Шаноўныя сёстры-назарэтанкі.
Хрыстос нахіліўся пад цяжкаю ношай,

Пякучай сьлязою шлях Яго арошан.
Ці ў дні вясельля, ці ў гарматны грукат
Ён заўсёды, грэшным, падае руку нам.
Не сьпяшайся, дружа, супыніцца трэба,
Памаліцца Богу, што дае нам хлеба,
Што дае нам моцы, сілы жыццядайнай:
Маці, дзеці, ружы – сімвалы каханьня.
Радуецца сонца, у вітрынах грае,
Золата пярсьцёнкаў на машынах зьзяе.
У хваляваньні моцным маладая пара –
З велічнасьцю строгай іх вітае Фара.
Хрыстос ім пашле Сваё бласлаўленьне,
Анёлы вітаюць, глядзяць у захапленьні
На новасьпячоных Адама і Еву –
Нясіце вышэй хрысьціянскую веру!
А Панна Марыя пад гукі харалу
Ціхутка на вушка нявесьце шаптала:
Каханьне сваё праз гады пранясіце,
Дзіцятка малое ў Хрысьце акуніце.

**Іван Гайваронскі**
*м.Новы Двор Шчучынскага раёну*

*(Са зборніка "Кветкі правінцыі (Гродна, 2007)"*

РАЗАМ – старонкі грэка-каталіцкіх семінарыстаў, выпуск № 1 (29), 2008

## Вялікі пост:
## набліжэньне да Бога

**Пост цела ёсьць ежа для душы**
*Ян Залатавусны*

Пасты папярэднічаюць вялікім хрысьціянскім сьвятам. Пост – гэта адна з формаў пакаяньня. Без пакаяньня і ачышчэньня чалавеку немагчыма перажыць радасьць сьвята. Пост у жыцьці хрысьціяніна – гэта час набліжэньня да Госпада, перамяненьня свайго жыцьця згодна з евангельскімі запаветамі. Пост – гэта і барацьба з жарсьцямі і слабасьцямі, выклік самому д’яблу. Адным са складнікаў посту разам з малітвай і міласьцінай зьяўляецца ўстрыманьне ад ежы, адмова ад забаваў. Такое абмежаваньне можа выклікаць унутраны супраціў: «Што можа быць добрага ў тым, каб адчуваць голад? Якую карысьць атрымоўвае дух чалавека ад пакутаў цела?»



Апостал Павел так адказвае на гэтыя пытаньні: «Цела бо цягне супраць духу, а дух – супраць цела: яны супрацівяцца адзін аднаму, каб ня тое, што хочаце, вы рабілі» (Гал 5, 17). Але такое супрацьстаяньне цела да духу было не заўсёды. Бог стварыў чалавека як гарманічнае цэлае. У раі, дзе жыў чалавек, не было сьмерці, спрэчак, болю і хваробаў. Жыцьцё ў раі – гэта жыцьцё ў сталым кантакце з Богам. Сьвет і ежа былі створаныя, каб пры дапамозе іх чалавек меў зносіны з Богам. Толькі ежа, прынятая дзеля Бога, магла падтрымліваць жыцьцё. Сама па сабе ежа не дае жыцьця, бо толькі Бог мае Жыцьцё, і Сам ёсьць Жыцьцё.

Бог даў свабоду сілкавацца ад кожнага дрэва ў раі, акрамя дрэва пазнаньня дабра і зла. Можна сказаць, што гэта быў самы першы пост. Адам пераступіў гэты пост-забарону, паверыўшы, што, спажыўшы гэтай ежы, ён можа сам стаць, як Бог. Жадаючы стаць богам замест Бога чалавек парушыў райскую гармонію цела і духу. Цяпер яго жыцьцё перастала цалкам залежыць ад Створцы, але ў большай ступені ад хлеба, які здабываецца ў «поце твару».

Міласэрны Бог не пакінуў чалавека ў яго трагічным стане. Яшчэ, выганяючы чалавека з раю, было абяцана прыйсьце Збаўцы. Сын Божы павінен быў уцелавіцца, каб аднавіць чалавека для сапраўднага жыцьця. Гэтым Збаўцам і стаўся Ісус Хрыстос. Паказальна, што Ён пачынае сваё зямное служэньне з посту. Пасьціўшыся дасканалым постам, г. зн. не спажываючы ежы 40 дзён, Ён напрыканцы адчуў моцны голад. І як калісьці сатана прыйшоў да чалавека ў раі, ён прыйшоў і да Хрыста ў пустэльні. Як піша вядомы тэолаг а. А. Шмеман, два галодныя чалавекі пачулі яго словы: еш, таму што твой голад паказвае, што ты цалкам залежыш ад ежы. І Адам паверыў і стаў есьці; Хрыстос адкінуў гэтую спакусу і сказаў: ня хлебам адзіным будзе жыць чалавек, але Богам. Адкінуўшы гэтую хлусьню, Хрыстос аднавіў сапраўдныя суадносіны паміж ежай, жыцьцём і Богам.



Што ж тады азначае пост для нас, хрысьціянаў? Гэта ўдзел у посным досьведзе Самога Збаўцы, якім ён паказаў нам шлях вызваленьня ад залежнасьці ад ежы, матэрыі і сьвету. Але ў зямным жыцьці нашае вызваленьне ні ў якім разе ня можа быць поўным. Чалавек працягвае жыць ва ўпалым сьвеце, і, складаючы частку гэтага сьвету, ён усё яшчэ залежыць ад ежы. Але нават штодзённы хлеб, дзеля якога прыходзіцца працаваць не шкадуючы сілаў, можа быць тым, што падтрымлівае і ўмацоўвае адносіны з Богам, а не аддаляе ад Яго. Пост дае магчымасьць ажыцьцявіць гэтае перамяненьне, даць істотны доказ таго, што залежнасьць чалавека ад ежы і матэрыі не канчатковая і што ў спалучэньні з малітвай, Божай ласкай і служэньнем Богу гэтая залежнасьць сама жадае стаць духоўнай. Іншымі словамі, зразумелы ў сваім праўдзівым значэньні, пост — гэта сродак аднаўленьня ў чалавеку яго сапраўднай прыроды.

«Нашае ж жыцьцё – у небе, адкуль мы чакаем і Збаўцу, Госпада нашага Ісуса Хрыста, Які пераменіць цела прыніжэньня нашага, каб яно сталася падобным да Цела славы Яго, сілаю, якою усё нават падпарадкаваць Сабе можа» (Флп 3, 20-21).

*(Паводле: А. Шмеман.«Великий пост»)*

***семінарыст Аляксей Філіпенка***

РАЗАМ – старонкі грэка-каталіцкіх семінарыстаў, выпуск № 1 (29), 2008

## Пад апекай Трох Сьвяціцеляў

**Літургічны ўспамін Трох Сьвяціцеляў: Васіля Вялікага, Рыгора Багаслова і Яна Залатавуснага – сьвятых біскупаў Усходняй Царквы, якія зьяўляюцца настаўнікамі таксама і для ўсёй Паўсюднай Царквы – прыпадае на 30 студзеня. Гэты дзень – гэта яшчэ і парафіяльнае сьвята грэка-каталіцкай парафіі ў Гомелі.**

Нягледзячы на тое, што супольнасьць у Гомелі доўгі час застаецца без сталай душпастырскай апекі, штогадовае сьвята Трох Сьвяціцеляў зьбірае на супольную малітву вернікаў парафіі і гасьцей з розных куткоў Беларусі.

Сёлета парафіяльная ўрачыстасьць адбылася ў нядзелю, 4 лютага. Памаліцца разам з вернікамі гомельскай парафіі і падтрымаць іх у духу прыехалі госьці з Віцебску, Магілёва, Менску, а таксама нашыя семінарысты, якія навучаюцца ў Драгічыне (Польша) і Івана-Франкоўску (Украіна).

Урачыстую Боскую Літургію для гомельскіх вернікаў у мясцовым рыма-каталіцкім касьцёле адслужылі нядаўна высьвячаны сьвятар Аляксандр Шыбека і айцец дыякан Васіль Ягораў, які прыехаў з Магілёва.

Пасьля малітвы ўсіх удзельнікаў сьвята чакала традыцыйная парафіяльная гасьціна.

***с. Вікторыя (Чэкан)***

**На фота:** *Гомель, 04.02.2008. Беларускія грэка-каталіцкія семінарысты на сьвяце парафіі Трох Сьвяціцеляў.*

РАЗАМ – старонкі грэка-каталіцкіх семінарыстаў, выпуск № 1 (29), 2008

## Адкуль узяліся гэтыя ЭМА?

***Погляд на адну з сучасных моладзевых субкультур***



Прыязджаючы з семінарыі на адпачынак, міжволі зьвяртаеш увагу на тое, чым жыве сёньня моладзь, твае сучасьнікі. Зьмяняюцца часы, зьмяняецца культура, зьмяняюцца надпісы на мурах, як і зьнешні выгляд тых, хто малюе, і тых, хто «сузірае» такія «творы мастацтва». Сярод сьвежых надпісаў можна заўважыць тры цікавыя літары: «ЕМО». Можа быць, хтосьці зусім не цікавіцца «насьценным» мастацтвам, аднак ён, напэўна, мог бачыць каго-небудзь з прадстаўнікоў сёньняшняй моладзі, апранутых у чорнае, часта з кантраснымі чырвонымі элементамі, у якіх фрызура (яна звычайна пафарбаваная ў чорны колер, але бываюць і ружовыя локаны) закрывае палову твару, на заплечніку — плюшавая цацка (ружовы мядзьведзік, зайчык і т. п.), на руках — «фенечкі», на нагах — кеды (нават могуць быць з абцасамі!). Хто ж яны?



Гісторыя «сапраўдных» эма, як многіх іншых субкультур, зьвязана з музычнымі зацікаўленьнямі. Пачалася яна ў 1983 годзе. Вашынгтонскі хардкор-панк страчвае папулярнасьць і некаторыя гурты пераходзяць на іншыя стылі. Новаўтвораныя музычныя каманды (зразумела, з рэштак раней папулярных гуртоў, што яшчэ памятаюць, як дабываць рыфы з гітар і «груканьне» з барабанаў) пачынаюць шукаць «новых хваляў». Так іхняя музыка сталася больш меладычнай, менш агрэсіўнай, рытмы лагаднейшымі, вакалы чысьцейшымі – свайго роду набліжэньне да звычайнай «папсы» (параўнальна, напрыклад, з гуртом «Звери»). Ужо ў 1985 годзе быў пачатак першай хвалі такой музыкі, існавала шмат гуртоў з «новым» гучаньнем. Іх жартаўліва пачалі называць «эма» — скарочана ад ангельскага слова «Emotion» (эмоцыя), або яшчэ «імо».



Напрыканцы 1980-х некаторыя музыкі пачалі больш рабіць акцэнтаў на эмоцыях у сваіх творах, падкрэсьліваючы іх кантраснымі гітарнымі хадамі і вакаламі, што пераходзяць ад пяшчотнага шэпту да істэрычных надрывістых крыкаў. Да пачатку 1990-х эма стае цалкам самастойным музычным накірункам і набывае нават свае новыя «падстылі». З 2000 году па сёньняшні дзень эма мае даволі шмат сваіх слухачоў і прыхільнікаў па ўсім сьвеце. Асаблівае месца субкультура Эма мае ў Японіі, адкуль паходзіць сувязь Эма з мультфільмамі анімэ.

Што ўвогуле можна сказаць пра эма-кідаў («эмацыйных дзяцей»)? Пачнем з таго, што маем: з музыкі, дзе ёсьць самастойны накірунак эма-стылю і нават вельмі разнастайныя падстылі. Заўзятыя аматары дадзенага музычнага накірунку – таксама ў наяўнасьці, нібы ў дастатковай колькасьці. Зьнешні выгляд – больш, чым трэба. Але большасьць увагі ў кожнай субкультуры трэба ўдзяляць, так бы мовіць, ідэалогіі – таму, «чым дыхае» гэтая моладзь. Асабіста мне, колькі даводзілася сустракацца з эма-кідамі, ніхто нармальна так і не расказаў пра свае эма-ідэі. Найчасьцей даводзілася чуць: «Наша ідэалогія – нашыя эмоцыі» ці: «Нашая філасофія – нашыя перажываньні, нашыя пачуцьці». Кожны нармальны чалавек мае пачуцьці і эмоцыі, кожны мае свае перажываньні, хтосьці больш уражлівы, хтосьці менш, бо ўсе мы розныя, бо ўсе мы людзі. Такія рэчы, як іх выгляд (карыстаньне касьметыкай, фарбаваньне ўсяго, што толькі даецца пафарбаваць, пасьля чаго цяжка адрозьніць хлопца ад дзяўчыны), вытлумачэньні іх ідэалогіі, штучныя паводзіны прывялі да непрыязьні да іх з боку іншых моладзевых субкультур. Праўда такая, што мужчына — мусіць быць мужчынай, жанчына — мусіць быць жанчынай, а «унісэкс» — зьнішчэньне розьніцы паміж мужчынскім і жаночым выглядам, якое сёньня нярэдкасьць — супраціўны хрысьціянству.



Па сваёй сутнасьці Эма — гэта перадусім хардкор, бо з гэтага накірунку панк-музыкі гэтая субкультура вырасла. Адпаведна да гэтага можна «дабыць» два ідэйныя накірункі стасоўна менавіта субкультуры Эма: «DIY» і «sXe». «DIY» – расшыфроўваецца і перакладаецца прыблізна як «рабі ўсё самастойна». Каментару не патрабуе. «sXe» калісьці зарадзілася ў панкаўскім асяродзьдзі. Асноўнай рысай гэтага зьявішча было поўнае самакантраляваньне, пры гэтым абавязковая была адмова ад шкодных звычак (цыгарэт, алкаголю, наркотыкаў, псіхічных і фізічных стымулятараў). Калі ж хтосьці з эма-кіндэраў ня ведае, што такое хардкор, «DIY», «sXe», то з пэўнасьцю можна сьцьвердзіць яго прыналежнасьць да любой «позерскай» псеўдасубкультуры, але ніколі да субкультуры Эма.

Што можна сказаць пра тэксты эма-музыкі, ад якой фанацеюць эма-кіды? Сёньня ў сучасных так званых эма-выканаўцаў часьцей можна пачуць прыкладна такія тэмы (цытую з гумарам перакладчыка): «Мяне кінула мая каханая, мне надакучыла жыць, я крычу ад болю, я буду біцца галавой аб сьцены, каб стала яшче балесьней, я хачу перастаць жыць... я перастану жыць...» Калі гэта выдумана (на шчасьце, 95% такіх твораў штучныя), можна задацца пытаньнем: навошта аж столькі і так трагічна, і навошта так надрывацца? Калі гэта сапраўдныя перажываньні, то існуе немалая верагоднасьць, што слухач эма-кід, калі яго кіне каханая, папраўдзе будзе біцца галавой аб сьцены. Што ж сьпявалі прадстаўнікі старой эма-школы? Зноў цытую перакладчыка: «Мяне кінула мая каханая, жыцьцё страціла сэнс, ня хочацца больш жыць... Але я маю мару, сьветлую мару, цёплую мару, нават калі ўвесь сьвет адвернецца ад мяне, нават праз сьлёзы, мара ажыцьцявіцца... Варта жыць для такой мары».

 Абавязкова мушу адзначыць, што пераважная большасьць сучасных музычных гуртоў, якія дэкларуюць сябе як «ЕМО», да сапраўднага эма (а нават і да хардкору, панку, і яшчэ глыбей: да сапраўднага року) ня маюць аніякага дачыненьня.

 Таксама трэба пагаварыць пра выгляд эма-кідаў, так званы EMO-Style. Вышэй апісаны вобраз сучаснага эма-кіндэра – толькі 0,01% ад сапраўдных эма, і пачатак свой бярэ не з каранёў Эма субкультуры, а, найверагодней, з поп-псэўда-мадэрн-готаў (пра іх, магчыма, іншым разам). Сапраўдныя эма-хлопцы выглядаюць перадусім як хлопцы: звычайныя джынсы (але вузкія), звычайная майка бяз надпісу «Tokio bordel» (прабачце, дарагія чытачы!) або цёмнага колеру вязаны швэдар, звычайныя (не ружовыя!) кеды ці іншы зручны абутак, а на галаве нармальны, у сэнсе ўласьцівы амаль усім рокавым субкультурам, хаер (доўгія валасы). Традыцыйнай прычоскай эма лічыцца касы рваны чуб да кончыка носу, каб закрывала адно вока, а ззаду – кароткія валасы, якія тырчаць у розныя бакі. Эма-хлопцы не карыстаюцца жаночай касьметыкай і не фарбуюцца, як кіношныя гомасэксуалісты. Часта эма абвешаныя рознымі значкамі сваіх эма-гуртоў. У эма-хлопца відаць яго індывідуальнасьць.

Няхай мяне прабачаць усе дзяўчаты за далей напісанае. Эма-дзяўчат, як такіх, лічу, не існуе! Жыць паводле прынцыпу: больш эмоцыяў і больш выяўленьня гэтых эмоцыяў — для прадстаўніц прыгожай паловы чалавецтва – гэта натуральная справа. А эма-хлопцы – гэта тыя, якія мацней за іншых нармальных хлопцаў засяродзіліся на пачуцьцях, і сапраўдныя пачуцьці і перажываньні для іх зьяўляюцца велічэзнымі каштоўнасьцямі, нават у нейкім сэнсе скарбам. Часта эма любяць пісаць вершы, маляваць у стылі Эма.

Вядома, сапраўдныя эма (напрыклад, японскія) супраць шкодных звычак, супраць неўпарадкаваных сэксуальных кантактаў, падтрымліваюць здаровы лад жыцьця, шануюць пачуцьці, аднак менавіта гэта, часта празьмерная, акцэнтацыя на эмоцыях і пачуцьцях, асабліва на негатыўных, зьяўляецца небясьпечнаю.



Нельга не адзначыць яшчэ адзін немалаважны момант, які нярэдка ўзьнікае вакол звышэмацыйных людзей – гэта праблема самазабойства. Важна ведаць, што «сапраўдныя» эма ня маюць суіцыдальных схільнасьцяў, але паколькі сучасныя так званыя эма-выканаўцы кожным другім куплетам апяваюць «нежаданьне» жыць, варта задумацца на тэму нармальнасьці такіх ЭМАцыйных падлеткаў, бо калі не самазабойства, то нездаровы мазахізм пагражае асобе даволі сур'ёзна.

Як ставіцца да Эма або ўвогуле як ставіцца да падобных моладзевых субкультур? Калі прыналежнасьць да той ці іншай моладзевай субкультуры не перашкаджае чалавеку быць хрысьціянінам, не засланяе сабой Хрыста, а ідэі не супярэчаць агульначалавечым вартасьцям, то, напэўна, мае права на існаваньне. У кожным выпадку чалавек мусіць ведаць, або, прынамсі, задумвацца, што ён слухае, чаму ён так, а не па-іншаму апранаецца, і, самае галоўнае — навошта яму гэта.

**семінарыст Аляксандр Хахлоў**
*(За дапамогу ў падрыхтоўцы матэрыялу шчыра дзякую віцебскім нефармалам і ўсім наведвальнікам «метал»-парталу.)*

**Гл. таксама:** Ці кожны эма зьяўляецца хрысьціянінам?

РАЗАМ – старонкі грэка-каталіцкіх семінарыстаў, выпуск № 1 (29), 2008



Ці кожны эма зьяўляецца хрысьціянінам?

*Каментар сьвятара*

У кантэксьце артыкула ***Адкуль узяліся гэтыя ЭМА?***, як увогуле пры кожнай размове пра моладзевую субкультуру, паўстае пытаньне: ці мае рух Эма ў сабе хрысьціянскія элементы і, адпаведна, ці можа хрысьціянін быць эма?

Напэўна, нельга даць гэтаму руху адназначнай ацэнкі. Яго складаюць неардынарныя маладыя людзі, якія ў свой спосаб шукаюць сэнс жыцьця, і таму заслугоўваюць павагі. Станоўчымі момантамі тых, хто прытрымліваецца субкультуры Эма, зьяўляецца таксама імкненьне адмовіцца ад шкодных звычак, неўпарадкаваных палавых кантактаў, імкненьне да самакантролю.



Сьцьверджаньне, што большасьць сучасных эма ня маюць нічога супольнага з сапраўднай субкультурай Эма, дазваляе скіраваць ніжэй напісаныя словы да тых, каго аўтар артыкулу акрэсьлівае як прадстаўнкоў «позерскай» субкультуры. Памылкаю было б ставіць знак тоеснасьці паміж Эма і хрысьціянствам, а гэта значыць, што эма-кід, які прымае Хрыста, мусіць адмовіцца ад пэўных рэчаў.

Хрысьціянства вучыць, што чалавек складаецца з душы, якая ў сваю чаргу складаецца з розуму, волі і пачуцьцяў, і цела. Розныя філасофскія плыні спрабавалі на працягу гісторыі ўзвысіць значэньне аднаго з гэтых элементаў (як, напрыклад, матэрыялісты, якія «займаліся» толькі целам чалавека), аднак хрысьціянства заўсёды настойвала на неабходнасьці гарманічнага разьвіцьця ў чалавеку ўсіх гэтых складнікаў. Здаецца, Эма (прынамсі, у тым выглядзе, у якім часьцей сустракаецца ў нас) зьяўляецца чарговаю антрапалагічнаю памылкаю людзей, якія намагаюцца пераацаніць значэньне душы-эмоцыяў для чалавека. На самой справе эмоцыі (ня дрэнныя самі па сабе) мусяць ураўнаважвацца розумам чалавека, які падказвае слушныя рашэньні, і воляю, якая дазваляе іх выконваць нават насуперак пачуцьцям.

Не зусім прымальным для хрысьціяніна ёсьць таксама прынцып Эма – «рабі ўсё сам», бо мы жывем у супольнасьці і патрабуем часам дапамогі адзін аднаго. Зрэшты, прырода чалавека – сацыяльная, што адлюстроўваецца ў розных супольнасьцях (у сям'і, народзе, Царкве і інш.), да якіх належыць кожны з нас. Аднак здаровая самастойнасьць як адмова ад характэрнай для нашага часу інфантыльнасьці ёсьць вельмі карыснаю для разьвіцьця маладых людзей.

Ці сапраўды – для таго, каб эма-кіду стаць хрысьціянінам, яму трэба стаць «сапраўдным» эма, а не прадстаўніком «позерскай субкультуры»? Адказ на гэтае пытаньне хутчэй за ўсё негатыўны, бо хрысьціянства – гэта ня проста сумленнае жыцьцё бяз шкодных звычак. Хрысьціянства – гэта прыналежнасьць да Хрыста, да Бога. Хрысьціянін ведае, што не праз уласныя намаганьні ён збаўляецца, але праз тую дапамогу, якую дае яму Бог. Ці можа «сапраўдны» эма-кід заставацца эма пасьля таго, як прыняў Хрыста? На гэтае пытаньне адказаць можа толькі ён сам, бо хрысьціянства — гэта не адназначны звод законаў, а жывы досьвед сустрэчы жывога чалавека і жывога Бога. І так як не было адказу на пытаньне: «Ці можа быць хрысьціянінам чалавек, які не належыць да габрэйскай культуры?», пакуль апостал Пётр не ўвайшоў у дом сотніка Карнілія, так няма адказу на пытаньне: «Ці можа стаць хрысьціянінам малады чалавек, які належыць да пэўнай сучаснай субкультуры?», пакуль ён сваім рэальным жыцьцём ня дасьць адказу на гэтае пытаньне.

а. Андрэй Крот

РАЗАМ – старонкі грэка-каталіцкіх семінарыстаў, выпуск № 1 (29), 2008

Як нам пасьціцца?

***«Пасьцімся пастом прыемным, угодным Госпаду; праўдзівы пост – ёсьць***

***пазбыцьцём злога, устрыманьнем языка, адкладаньнем гневу, адлучэньнем пажаданьняў, абгаворваньня, хлусьні і парушэньня клятвы – адкіданьне ўсяго гэтага, тады гэта пост праўдзівы і спрыяльны».***

Сьціхіра ў панядзелак першага тыдня Вялікага посту

Няма Вялікага посту без устрыманьня. Здаецца, аднак, што сёньня людзі альбо несур'ёзна ставяцца да «царкоўных забаронаў», альбо няслушна разумеюць іх сапраўднае духоўнае значэньне. Для адных пост складаецца з сымбалічнага пазбаўленьня сябе чаго-небудзь, для іншых пост – добрасумленнае выкананьне правілаў посту, г. зн. ужываньне поснай ежы. Аднак у тым, і ў іншым выпадку ўстрыманьне рэдка разглядаецца як частка вялікапоснага подзьвігу.

Практыка хрысьціянскага посту бярэ свой пачатак яшчэ ў Старым Запавеце (Вых 34, 28; Ёны 3, 7; Дан 10, 2-3). Ісая вучыць праўдзіваму посту: «Вось пост, які Я выбраў: разамкні аковы няпраўды, разьвяжы путы ярма, і прыгнечаных адпусьці на волю і разарві кожнае ярмо: падзяліся з галодным хлебам тваім, і бяздомных бедных увядзі ў дом; калі ўбачыш голага, адзень яго, і ад адзінакроўнага твайго не хавайся» (Іс 58, 6-7). У Новым Запавеце прыклад посту падае Госпад Ісус Хрыстос (Мц 4, 2), а пазьней навучае ў казаньні на гары: «Калі посьціце, ня будзьце сумныя, быццам крывадушнікі; бо яны твары свае выкрыўляюць, каб паказацца людзям, што посьцяць… Ты, калі посьціш, намасьці галаву сваю ды абмый твар свой, каб паказацца посьнікам ня людзям, а Айцу твайму, Які ў скрытасьці; і Айцец твой, Які бачыць у скрытасьці, аддасьць табе» (Мц 6, 16-18). У першаснай Царкве не было агульнацаркоўнага саракадзённага посту, які пачаў распаўсюджвацца на ўсю Царкву толькі на пачатку IV стагоддзя.

Што да формы ўстрыманьня падчас посту, у які спосаб, што есьці і піць – на гэтыя пытаньні можна знайсьці адказ у царкоўных пастановах і дакументах. Папа Павел VI у 1966 годзе ў сваім Motu proprio «Paenitemini» забараніў спажываньне мяса па пятніцах. У канстытуцыі Другога Ватыканскага сабору «Аб літургіі» (п. 110) напісана: «Пакутную практыку варта падтрымліваць адпаведна магчымасьцям нашай эпохі і розных краінаў, а таксама становішчу вернікаў». Фактычна форма посту акрэсьліваецца статутам і ўладай мясцовай Царквы.

Да посту трэба падыходзіць разумна. Сьвяты Васіль Вялікі піша, што несправядліва для моцнага і для слабога прызначаць адну і тую ж меру посту: «У адных цела падобна жалезу, а ў іншых – саломе».

Трэба ведаць свае сілы, і не пасьціцца вельмі строга або вельмі лёгка. У першым выпадку, можна лёгка ўпасьці ў расчараваньне або ў роспач, у другім выпадку цяжка дасягнуць духоўнага і цялеснага подзьвігу. Часам узьнікаюць сумнівы з нагоды ўжываньня таго або іншага прадукту. Можна ў гэтым выпадку параіцца з лекарам, пацікавіцца ў сьвятара, якія паслабленьні дазваляюцца Царквой. Пост палягчаецца для цяжарных і тых, што толькі нарадзілі і кормяць грудзямі; для тых, хто ў дарозе, і тых, што патрапілі ў экстрэмальныя ўмовы; для дзяцей да 14 гадоў і састарэлых (пасьля 59 гадоў), асабліва калі старасьці спадарожнічаюць немач і слабасьць. Пост адмяняецца ў тых умовах, калі фізічна немагчыма здабыць поснай ежы й чалавеку пагражае хвароба або галодная сьмерць, а таксама, калі чалавек выздараўлівае пасьля цяжкай хваробы.

Аскетычны пост, які заключаецца ў абмежаваньні ў ежы, у такі спосаб, каб адчуваўся сталы

стан лёгкага голаду, як памяць пра Госпада, і падтрымліваўся сталы высілак захоўваць гэтую памяць. Кожны, хто выконваў такі пост, ведае, што замест таго, каб аслабляць, ён стварае пэўную лёгкасьць, сабранасьць, цьвярозасьць, радасьць і чысьціню. Ежа ўспрымаецца сапраўды як Божы дар. Посьцячы, трэба бачыць у сваім жыцьці доказ таго, што немагчымае для чалавека – магчыма Богу.

**семінарыст Аляксей Філіпенка**

**Гл. таксама:** «Пост у грэка-католікаў»

РАЗАМ – старонкі грэка-каталіцкіх семінарыстаў, выпуск № 1 (29), 2008

## Пост у грэка-католікаў

**Грэка-католікі абавязаны:**

**1. Устрымлівацца АД МЯСНЫХ СТРАВАЎ усе пятніцы** на працягу году за выключэньнем сьвятаў Гасподніх і Багародзічных, якія прыпадаюць на пятніцу, і агульных:

- ад Раства Хрыстова да Богазьяўленьня (25 сьнежня – 6 студзеня);
- ад Нядзелі мытніка і фарысея да Нядзелі блуднага сына (13-20.01.2008);
- ад Вялікадня да Нядзелі Тамаша (23-30.03.2008);
- ад Тройцы да Нядзелі ўсіх сьвятых (11-18.05.2008).

**2. Устрымлівацца аД МЯСНЫХ І МАЛОЧНЫХ СТРАВАЎ:**
- у першы дзень Вялікага посту (4.02.2008);
- у Вялікую пятніцу (21.03.2008).

**3. Устрымлівацца ад мясных страваў і АБМЯЖОЎВАЦЦА АДНЫМ ПАСІЛКАМ у дзень:**
- у Сьвяты вечар перад Раством Хрыстовым (24 сьнежня);
- у Сьвяты вечар перад Богазьяўленьнем (5 студзеня);
- на Ўзвышэньне сьв. Крыжа Гасподняга (14 верасьня);
- на Адсячэньне галавы сьв. Яна Хрысьціцеля (29 жніўня).

**Біскупы і парахі таксама могуць звольніць верніка ад посту дзеля нейкіх важкіх прычынаў. Спаведнік можа гэта зрабіць у спавядальні.**